K КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 40 (302) 11 — 17 кастрычніка 1997 г. КОШТ 2500 РУБЛЁЎ

ДЫСКУТУЕ • ПРЭЗЕНТУЕ • РАЗВАЖАЕ

TV Усе каналы!

# ВЯРНУЦЬ ДАЎГІ...

Кажуць, як сустрэнеш Новы год, такім ён і будзе. Таму імкнешся напярэдадні яго папрасіць прабачэння у таго, каго дарма пакрыўдзіў, скончыць распачатыя справы, вярнуць даўгі — каб не цягнуць у новы год цяжар старых праблем.

Усяго тры "новых года" засталося да новага тысячагоддзя. Не хвіліны нават, а імгненне ў маштабах Вечнасці. А колькі трэба паспець, пачатага скончыць, каб новае стагоддзе было для Беларусі шчаслівым.

Ёсць у нашай гістарычнай і культурнай спадчыне аб'екты, якія мы, беларусы, АБАВЯЗАНЫ перадаць завершанымі трэцяму тысячагоддзю. Гэтых "лагічных кропак", вобразна кажучы, нямала. Але "К" вызначыла для сябе бадай самыя першасныя, балючыя. Помнік Францішку Скарыне ў Мінску... Мірскі замак... Музей сучаснага выяўленчага мастацтва... Будынак Магілёўскага драмтэатра... Ці ўвойдуць гэтыя і не толькі гэтыя аб'екты разам з беларускай нацыяй у XXI стагоддзе?



Пра гэта наша новая рубрыка "Беларусы — трэцяму тысячагоддзю: пытанне — адказ", якую мы сёння адкрываем на стар. 2 — 3 размовай пра лёс помніка, якога яшчэ няма ў сталіцы дзяржавы.

№ 40 11 — 17 кастрычніка 1997.



## БЕЛАРУСЫ — ТРЭЦЯМУ ТЫСЯЧАГОДДЗЮ:

# КАЛІ Ж БУДЗЕ ПОМНІК СКАРЫНЕ?

***Больш за восем гадоў працягваецца эпапея з праектаваннем і збудаваннем у беларускай сталіцы помніка Францішку Скарыне. Больш за восем гадоў грамадства занепакоена пытаннем: дык што ж будзе з помнікам? І ці будзе ён наогул? Даўно адгучалі фанфары з нагоды 500-гадовага юбілею нашага вялікага земляка. Напярэдадні — трэцяе тысячагоддзе. А помніка ўсё няма... Наш карэспандэнт сустрэўся з вядомым скульптарам Алесем ДРАНЦАМ, пераможцам рэспубліканскага конкурсу на лепшы праект помніка Ф.Скарыне, і папрасіў даць тлумачэнні па гэтай праблеме.***

**— Саша, калі пачалася ўся гэта гісторыя з праектаваннем помніка Францішку Скарыне ў Мінску?**

— Гэта было ў сакавіку 1990 года. Тады ў Савеце Міністраў БССР Ніна Міхалаеўна Мазай, тагачасны намеснік старшыні Саўміна, правяла аргкамітэт па ўвекавечанні памяці Скарыны ў сувязі з 500-годдзем з дня ягонага нараджэння.

**— Хто тады ўваходзіў у склад аргкамітэта?**

— Вайтовіч, Бураўкін, Гілевіч, Дзялец, Чыгрынаў, Ваніцкі, Лойка, Галко, Шамякін... Было шмат запрошаных...

**— І што вырашыў аргкамітэт?**

— Ён даручыў Міністэрству культуры, Беларускаму аддзяленню Савецкага фонду культуры, творчым Саюзам мастакоў і архітэктараў з удзелам Галоўнага архітэктурна-праектнага ўпраўлення вызначыць групу скульптараў і архітэктараў, якія маглі б узяць удзел у конкурсе на лепшы праект помніка, а таксама распрацаваць праграму канчатковага варыянта на месцы ўсталявання помніка.

**— Але, мабыць, аргкамітэт працаваў на падставе якой-небудзь пастановы вышэйшых органаў?**

— Так. На падставе рашэння калегіі Міністэрства культуры, выканкама Мінскага гарсавета, прэзідыумаў праўленняў Саюзаў мастакоў і архітэктараў, а таксама Беларускага аддзялення Савецкага фонду культуры. Гэтая пастанова была прынята напрыканцы студзеня 1989 года. Яна мела назву "Аб правядзенні адкрытага рэспубліканскага конкурсу на лепшы замоўны праект помніка Ф.Скарыне ў горадзе Мінску".

**— І які тэрмін быў вызначаны для распрацоўкі лепшага эскізнага праекта?**

— З 1 лютага па 1 жніўня 1989 года. У склад праекта павінны былі ўвайсці макет, рабочая мадэль скульптурнай кампазіцыі, планы помніка, фотамантаж і тлумачальныя нататкі.

**— Які ж быў вынік?**

— У першым туры былі вызначаны, па-першае, раён усталявання помніка — Акадэмія навук, па-другое, прысуджаны прэміі за лепшыя праекты. Першую прэмію вырашылі не прысуджаць. Другую атрымаў Павел Лук. А дзве трэція былі падзелены паміж нашай групай (я і архітэктар Алесь Камлюк) і групай Валянціна Занковіча. Але потым з'явілася сур'ёзная праблема менавіта з канкрэтным месцам усталявання, бо ніводзін з праектаў, паводле меркавання мастацка-экспертнага савета, не быў вырашаны з пункта погляду ідэальнага архітэктурна-прасторавага прыстасавання да будынка Акадэміі навук...

**— І потым адбыўся другі тур?**

— Так, другі тур — дзеля вызначэння месца ўсталявання помніка.

**— І якія былі варыянты?**

— Розныя, у тым ліку, тая ж Акадэмія навук, Верхні горад, Кастрычніцкая плошча... Аднак конкурс зноў не даў вынікаў: палова членаў савета прагаласавала за Акадэмію навук, палова — за Стары горад. Асабіста я лічыў, што лепшае месца для помніка — на восі галоўнага ўвахода Акадэміі. Прычым мы ўлічвалі і тую акалічнасць, што яшчэ Іосіф Лангбард, які ў свой час праектаваў Акадэмію, меркаваў паміж калонамі размесціць скульптурныя постаці беларускіх асветнікаў і гуманістаў. Магчыма, калі мы будзем больш заможнымі, ягоная мара і здзейсніцца? І ўсё гэта разам з помнікам Скарыне выглядала б тады сінтэтычным архітэктурна-скульптурным ансамблем... Я ўжо не кажу пра тое, што лобач праспект і вуліца, што носяць імя Скарыны, і Акадэмія мастацтваў, і мастацкая вучэльня, і друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", і найбуйнейшы кінатэатр сталіцы...

**— Што ж было далей?**

— Увогуле, былі наладжаныя яшчэ два туры. І ў выніку застаўся наш праект і праект Льва Гумілеўскага (архітэктар Яўген Мядзько). Мастацка-экспертны савет Міністэрства культуры абраў наш варыянт. А потым пачалася праца па стварэнні постаці Скарыны, аднак архітэктура па-ранейшаму выклікала спрэчкі. І тады мы ўсталявалі на месцы будучага помніка на восі Акадэміі макет-сілуэт у памеры 5,5 метра.

**— Што ж вырашыў савет?**

— Савет пад старшынствам намесніка міністра культуры Уладзіміра Пятровіча Рылаткі 13 кастрычніка 1993 года прыняў рашэнне, у якім пагадзіўся з намі, аўтарамі праекта, каб усталяваць помнік менавіта на восі ўвахода ў Акадэмію навук. А напрыканцы гэтага ж года Камітэт па архітэктуры Мінгарвыканкама прыняў прапанову па рэканструкцыі і добраўпарадкаванні тэрыторыі каля Акадэміі з улікам будучага помніка. Так, ледзь не забыўся: раней, 18 кастрычніка 93-га, савет ужо разгледзеў і зацвердзіў метровую рабочую мадэль нашага помніка. Потым была падпісана дамова са скульптурным камбінатам на каркас і пракладку постаці Скарыны ў памеры збудавання.

**— І што ж маем цяпер?**

— Цяпер постаць у памеры збудавання ў пластыліне ў прынцыпе падрыхтаваная. Трэба яе сканчваць, але пакуль няма дамовы на наступны этап працы — на фармоўку і мяккі матэрыял... І праца нібыта спынілася...

**— Хто з'яўляецца сёння замоўцам?**

— Мінгарвыканкам і ґарадская служба Мінграфармлення. Менавіта яны павінны падпісаць наступную дамову са скульптурным камбінатам і пералічыць грошы ў памеры, здаецца, 1 мільярда 400 мільёнаў рублёў (сюды ж уваходзіць і кошт усёй архітэктурнай часткі).

**— Добра. Постаць амаль гатовая — неўзабаве яе можна будзе адфармаваць і адліць у бронзе. Месца ўсталявання помніка даўно зацверджана. Дык у чым жа справа? У архітэктурнай дапрацоўцы?**

— Я ж кажу: справа — у фінансаванні архітэктурнага праекта. Калі будзе канчатковае архітэктурнае вырашэнне, мы можам прыступіць да рэалізацыі гэтага праекта. Яшчэ 18 кастрычніка 1995 года Дзяржаўны мастацка-экспертны савет па манументальным мастацтве Мінкультуры і друку вырашыў, што далейшы этап праектавання трэба весці паралельна па двух накірунках — скульптурны камбінат выканае постаць у памеры, а "Мінскпраект" прадоўжыць распрацоўку архітэктурнага праекта. Я ведаю, што цяпер у розных кулуарах зноў абмяркоўваецца пытанне пра мэтазгоднасць усталявання помніка на восі ля галоўнага ўвахода Акадэміі. Але пакуль што да нас, аўтараў, ніхто афіцыйна са сваімі сумненнямі і пажаданнямі не звяртаўся, у тым ліку і прэзідыум Нацыянальнай Акадэміі навук...

**Са скульптарам гутарыў Барыс КРЭПАК**



*Скульптар Алесь Дранец перад адпраўкай мемарыяльнай дошкі, прысвечанай Францішку Скарыне, у Прагу.*



*Рабочая мадэль помніка Ф.Скарыне ў памеры збудавання.*



*Перспектыва цэнтральнага ўвахода Беларускай Акадэміі навук. 1934. Архітэктар І.Лангбард.*

# ПЫТАННЕ — АДКАЗ



**Аляксандр ВАЙТОВІЧ, прэзідэнт Нацыянальнай Акадэміі навук РБ, акадэмік:**

— Я павінен сказаць, што ў Акадэміі пытанне аб усталяванні ў Мінску помніка Францішку Скарыне не разглядалі, яно для мяне нечаканае крыху. Таму тое, што я скажу, трэба разглядаць як маё папярэдняе меркаванне, гэта ніякая не прапанова і тым больш гэта ніякае не рашэнне. Гэта маё меркаванне як грамадзяніна, проста як вучонага.

Зразумела, што помнік Францішку Скарыне павінен стаяць недзе ў цэнтры, пажадана на праспекце ягонага імя, і ні ў якім разе не на ўскраіне ці якім-небудзь новым мікраёне. Давайце паглядзім на праспект. Плошча Незалежнасці — афармлена і занята, помнік на ёй цяжка ўявіць. Пойдзем далей. Кастрычніцкая плошча — на фоне манументальнага будынка Палаца Рэспублікі помнік будзе дысгарманіраваць, будзе губляцца. Далей. Плошча Перамогі — занята, плошча Якуба Коласа — таксама. Даходзім да будынка Акадэміі навук, перад ім сапраўды ёсць месца, дзе можна было б паставіць гэты помнік. І мне здаецца, што гэта найбольш прыдатнае месца. Але трэба падумаць, каб ансамбль выглядаў гарманічна, над гэтым павінны папрацаваць скульптары і архітэктары.

# МЕРКАВАННІ І ПАЖАДАННІ



**Ігар ВАЛАТОЎСКІ, віцэ-прэзідэнт Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі, акадэмік, доктар біялагічных навук, прафесар:**

— Пытанне аб усталяванні ў Мінску помніка Францішку Скарыне не новае. Памятаю, калі некалькі гадоў таму мы ўсталёўвалі на будынку прэзідыума Акадэміі навук мемарыяльную дошку Скарыне, ужо тады ішла размова пра помнік, актыўна абмяркоўвалася магчымасць ягонага ўсталявання на пляцоўцы перад прыступкамі галоўнага ўвахода Акадэміі.

Па-першае, Скарына — адзін з самых выдатных асобаў, якія ўпрыгожваюць нашу нацыю. І мы ім ганарымся. Па-другое, існуе ўдалая, на маю думку, архітэктурна-сэнсавая прывязка: Скарына — першадрукар, філосаф, гуманіст, лекар, даследчык прыроды, і ён бы добра "пачуваўся" тут, побач з нашай Акадэміяй, з Акадэміяй мастацтваў, з друкарняй выдавецтва "Дом друку", з комплексам медыцынскіх установаў, не кажучы ўжо пра тое, што і наш галоўны праспект носіць ягонае імя...

Таму наша навуковая, акадэмічная грамадскасць лічыць, што помнік вялікаму сыну беларускага народа павінен знаходзіцца менавіта тут, на восі галоўнага ўвахода Нацыянальнай Акадэміі навук.



**Яўген ЗАСЛАЎСКІ, правадзейны член Беларускай Акадэміі архітэктуры, заслужаны архітэктар Рэспублікі Беларусь, кіраўнік рэканструкцыі Аляксандраўскага сквера:**

— Я кіраваў праектаваннем комплексу сквера на Цэнтральнай, цяпер Кастрычніцкай, плошчы яшчэ ў 1950-57 гадах. Адначасова рэканструявалася і планіроўка сквера. І ля ўвахода на дыяганальную алею сквера з боку вуліцы Энгельса быў размешчаны бюст Янкі Купалы. Потым, пасля з'яўлення помніка песьменніку, бюст знялі. Засталося вольнае месца і засталася планіроўка, якая проста вымагае размяшчэння на гэтым месцы якога-небудзь манумента. Помнік Скарыне быў бы тут вельмі дарэчы, як ні ў якім іншым месцы.

Падчас будавання метро архітэктурнае афармленне сквера было значна пашкоджана. Аднаўлена яно толькі сёлета, да свята горада. Я зноў-такі кіраваў праектам, аднаўленне, на маю думку, зроблена добра. Нададзены першапачатковы выгляд гранітным балюстрадам, вазам і калонам, дарэчы, выкарыстаны менавіта той самы ўкраінскі чырвоны граніт з капусціянскага кар'ераўпраўлення, які знялі перад будаўніцтвам метро. Зараз засталося змантаваць на калонах ужо зробленыя бронзавыя свяцільнікі. Пасля гэтага месца для помніка Скарыне тут будзе проста ідэальным, "парадным". Дэталь, якая сказа ўсё: калі ўважліва прыгледзецца да арыентацыі лесвіцы, што вядзе на дыяганальную алею з праспекта Скарыны, можна заўважыць, што яна арыентавана не на алею, а трохі ўправа, менавіта на тое месца, якое мы і прапануем для помніка. Зразумела, я б змог дапамагчы аўтарам у ландшафтнай прывязцы манумента.



**Іосіф ЛІТВІНОВІЧ, дырэктар мастацкага прадпрыемства "Скульптурны камбінат" Беларускага Саюза мастакоў:**

— Сёння праект помніка Ф.Скарыне знаходзіцца ў стадыі другога этапу, калі лічыць, што першы этап (эскізная частка і рабочая мадэль) ужо засталіся ззаду. Постаць Скарыны зроблена ў пластыліне ў натуральную велічыню — 5,5 метра. Да канца бягучага года мы павінны засвоіць грошы, якія нам выдаткоўвае бюджэт, у памеры 1 мільярда 400 мільёнаў рублёў, і з новага года павінны зняць формы і аддаць у ліццё.

Безумоўна, ужо страчаны нейкі час: у нашым цэху скульптура прастаяла нерухома амаль паўтара гады — не было грошай, хаця дамова ўжо была падпісана і першы этап быў праплочаны. Хто фінансаваў першы этап? 50 працэнтаў — горад, 40 працэнтаў — бюджэт і 10 — Фонд культуры.

Горад разлічыўся з намі цалкам, бюджэт і Фонд маюць даўгі адпаведна ў 15 і 25 мільёнаў рублёў.

Аднак гэтыя грошы, каб праца не стаяла на месцы, а рухалася наперад, мы часова знайшлі за кошт сваіх унутраных рэзерваў, аплаціўшы ўсе выдаткі на матэрыялы, на зарплату рабочым і г.д. Да таго ж нас падштурхоўваў, так бы мовіць, эканамічны момант: мы павінны былі максімальна выкарыстоўваць плошчы скульптурнага цэха, каб весці іншыя працы. Дзякуючы нашай цудоўнай матэрыяльна-тэхнічнай базе і унікальным спецыялістам — фарматорам і рабочым, мы атрымалі замовы не толькі ад беларускіх арганізацый, але і з Казахстана, Латвіі і г.д.

А што да пытання пра месца ўсталявання помніка, дык, на маю думку, лепшая кропка — перад Нацыянальнай Акадэміяй навук Беларусі.

Колькі будзе каштаваць адліўка помніка ў бронзе? Цяжка сказаць сёння — кошты і на бронзу мяняюцца. Але на сённяшні дзень — 1 мільярд 638 мільёнаў рублёў...

Карацей, мы павінны ўвайсці ў трэцяе тысячагоддзе, маючы ў сталіцы цудоўны помнік вялікаму Францішку Скарыне. Зробім усё, што ад нас залежыць...

## А ШТО ДУМАЮЦЬ МІНЧУКІ?

***Дзе павінен стаяць помнік Францішку Скарыне? З гэткім пытаннем наш карэспандэнт звярнуўся да мінчукоў, што сустрэліся яму на праспекце імя Францішка Скарыны.***

**Аляксандр Еўдакімаў, механік па абслугоўванні тэлевізійнай апаратуры:**

— Канечне, на плошчы Незалежнасці. Бо тут прасторна, вятры лётаюць. Да таго ж гэта самы цэнтр Мінска. Тут пачынаецца праспект Францішка Скарыны.

**Цімафей Булгакаў, гвардыі маёр у адстаўцы:**

— Трэба ставіць ля Акадэміі навук — побач з навуковым цэнтрам нашай сталіцы. На мой погляд, самае цудоўнае месца для гэтага помніка.

**Ірына Башлачова, эканаміст:**

— Я лічу — на плошчы Незалежнасці. Гэта цэнтр горада —адміністрацыйны, культурны.

— **Побач з помнікам Леніну?**

— У горадзе даўно патрэбны музей, дзе і месца цяпер Леніну, Дзяржынскаму, Калініну і некаторым іншым. Таму помнік Францішку Скарыне можна ўсталяваць замест "правадыра пралетарыяту".

**Тацццяна Якімовіч, кантралёр радыёапаратуры:**

— Я думаю, на Кастрычніцкай плошчы ці ў нейкім парку.

**Алесь Сапега, бубнар з джазавага гурта "Яблычная гарбата":**

— Насупраць Акадэміі навук. Бо генію Еўропы трэба быць бліжэй да навуковага цэнтра.

— **Дык кажуць, што тады прыйдзецца бурыць прыступкі...**

— Я маю на ўвазе — з боку метро. Там ёсць "пятачок".

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ, мастацтвазнаўца:**

Адзінае месца — плошча перад Акадэміяй. Таму што ў Мінску болей няма "прэстыжных" кропак, якія б адпавядалі маштабу гэтай геніяльнай асобы.

Хіба што перад Палацам Рэспублікі...

Што ж датычыць атачэння, дык яго трэба ствараць. І плошча Перамогі, і плошча Якуба Коласа сталі такімі як ёсць не адразу. Трэба насыціць новую плошчу архітэктурнай і скульптурнай пластыкай. Перайменаваць кінатэатр "Кастрычнік" у "Полацк". Паставіць скульптуры выбітных беларускіх навукоўцаў з каланады Акадэміі. Тым больш, што знакаміты архітэктар І.Лангбард прадугледжваў у сваім праекце пластычнае аздабленне.

**Аляксандр ЧАДОВІЧ, старшыня камітэта архітэктуры, горадабудаўніцтва і землеўладкавання Мінгарвыканкама:**

— Помнік Францішку Скарыне, вядома, неабходны гораду. Цікавае меркаванне наконт месца яго ўстаноўкі выказалі аўтары рэканструкцыі Аляксандраўскага сквера — устанавіць помнік на ўваходзе ў сквер. Я з імі цалкам згодны.




Фотаэцюд Генадзя ЖЫНКОВА

**Дык дзе ўсё ж будзе стаяць помнік? Пра гэта — у наступных нумарах "К".**

# ПРЫСУДЖАЮЦЦА СТЫПЕНДЫІ

**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь паведамляе: "У 1994 годзе Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь у мэтах захавання і развіцця культурнага патэнцыялу рэспублікі заснаваны дзяржаўныя стыпендыі дзеячам культуры і мастацтва, творчай моладзі ў галіне літаратуры і журналістыкі, музыкі і харэаграфіі, тэатра і кіно, выяўленчага мастацтва, архітэктуры і дызайну. Стыпендыі прысуджаюцца пад выкананне пэўнага творчага праекта дзеячам культуры і мастацтва ва ўзросце звыш 40 гадоў у памеры 6 мінімальных заработных плат штомесячна, творчай моладзі ва ўзросце да 40 гадоў — у памеры 4-х мінімальных заработных плат штомесячна на працягу года."**

Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь аб'яўляе прыём заявак ад кандыдатаў на атрыманне дзяржаўных стыпендый на 1998 год. Для разгляду камісіі па прысудженні стыпендый неабходна прадставіць наступныя дакументы:

1) заяву (прозвішча, імя, імя па бацьку, дата нараджэння, прафесія, адрас з указаннем паштовага індэкса, тэлефон, назва праекта, этапы ажыццяўлення, тэрміны завяршэння, дата, подпіс);

2) рэкамендацыю творчага саюза альбо рэкамендацыю за подпісам трох вядучых майстроў у дадзенай галіне дзейнасці;

3) творчую біяграфію;

4) спіс творчых прац і заслуг.

*Дакументы прымаюцца ў Міністэрстве культуры да 1 лістапада 1997 года па адрасе: 220617, г. Мінск, пр. Машэрава, 11, аддзел музычных установ і цыркаў, каб. 316 б. Даведкі па тэлефоне 223-74-12.*

# ДРАЎЛЯНАЯ СКУЛЬПТУРА ІВАНА БЕЛЬСКАГА



З даўніх часоў на Беларусі, асабліва ў сельскіх раёнах, стварэнне вырабаў з дрэва было звычайным і неабходным заняткам. Пастунова аматарскі ўзровень узнімаўся, і для некаторых таленавітых людзей праца з дрэвам стала прафесіяй.

Некалькі гадоў таму, праходзячы армейскую службу ў Барысаве, Іван Бельскі пачаў займацца скульптурай: у вайсковай часці была майстэрня, дзе ён вырабіў свае першыя творы. Вярнуўшыся дахаты, у вёску Папернія, Іван не страціў повязі са светам мастацтва. Яго бацька Мікалай Іванавіч абудзіў у сыне цікавасць да апрацоўкі дрэва. Іван пачаў выразаць лыжкі, падсвечнікі, вазы. Частку з іх ён прадаваў, астатняе дарыў родным і сябрам. У 1992 годзе Іван Бельскі скончыў сваю першую буйную працу — гарнітур, у якім ужо ярка праявілася арыгінальнасць яго стылю. У тым жа годзе гарнітур быў набыты музеем Я.Купалы. На дадзены момант колькасць прадметаў, выробленых майстрам, дасягнула 150. Яговыя гарнітуры ўпрыгожваюць інтэр'еры Міністэрства замежных спраў, Дома культуры ў Навагрудку, дамоў прыватных асоб. Не так даўно гарнітур "Восеньскі вецер" быў прададзены ў Германію.

Мэбля, прадстаўленая на выставе "Беларускае дрэва" ў Таварыстве дружбы, мела поспех у наведнікаў. Нядзіўна, што створанае Іванам Бельскім прыцягвае да сябе людзей сваёй прыгажосцю і зграбнасцю. І не здагадаешся, што якіх-небудзь тры месяцы таму гэта былі звычайныя пні. Выкарыстоўваючы пластыку прыродных формаў, фантазію, шляхам карпатлівай працы майстра ператварае іх у высокамастацкія творы.

Праца Івана Бельскага была ацэнена спецыялістамі: у гэтым годзе ён атрымаў званне народнага майстра. Зараз Іван Мікалаевіч займаецца будаўніцтвам дома, дзе думае адкрыць прыватны музей драўлянай скульптуры, і марыць ствараць свае вырабы для паркаў, сквераў, дамоў адпачынку.

"Арыгінальнае баданне, пачуццё фактуры, унікальны падыход да працы — тыя якасці, якія адрозніваюць Бельскага ад іншых", — гаворыць Ларыса Шаршова, старшыня праўлення Беларускага дома народных традыцый. Шкада, што Бельскі, адзіны ў краіне, хто займаецца такім відам карнявой пластыкі, сутыкаецца з цяжкасцямі арганізацыйнага характару і не заўсёды знаходзіць падтрымку ажыццяўленню сваіх задум...

**Ганна ВАШЧЫЛА, Інна РАДЗЬКО**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# І ЛЯЛЬКІ ЛАДЗЯЦЬ ЮБІЛЕЙ

Дзяржаўны тэатр лялек распачаў свой шасцідзесяты тэатральны сезон. Не сакрэт, што за апошнія часы гэты від тэатральнага мастацтва Беларусі заняў пэўную нішу ў кантэксце сусветнага тэатральнага мастацтва. Брава, лялечнікі! Аб гэтым сведчаць шмат падзей: і стварэнне беларускага цэнтра УНІМА, і, нарэшце, падрыхтоўка да правядзення IV Міжнароднага фестывалю тэатраў лялек з абавязковым удзелам усіх беларускіх прафесійналаў.

У творчых планах Дзяржаўнага тэатра лялек шмат цікавых задумак: пастаноўкі — "Чараўнік смарагдавага горада" паводле А.Волкава, "Русалачка" Г.Андэрсена, "Круці-не-круці..." Ф.Аляховіча. У гэтым тэатральным сезоне працягне сваю эксперыментальную працу і Рэспубліканская творчая лабараторыя тэатраў лялек, дзе 27 кастрычніка гледачоў чакае сустрэча з майстрамі Магілёўскага тэатра лялек у пастаноўцы рэжысёра Алега Жугжды "Макбет".

Хочацца толькі дадаць, што спектакль "Майстар і Маргарыта", якім распачала юбілейны сезон сталічная сцэна, быў прысвечаны памяці таленавітага акцёра, заслужанага артыста Беларусі Юрася Сарычава, які нядаўна пакінуў нас...

**Ж.В.**

# У "ЧЫРВОНЫМ" КАСЦЁЛЕ

Відаць, няма такога мінчука, які не ведае легенды аб пабудове касцёла святых Сымона і Алены. Акурат сёння, **11 кастрычніка**, у гэтым — адным з самых прыгожых будынкаў горада, абрысы якога паводле легенды намалявала паміраючая ад гішпанкі дачка мінскага купца, адбудзецца канцэрт сімфанічнага аркестра "Collegium musicum" пад кіраўніцтвам Вячаслава Бартноўскага. У праграме музычныя творы Мендэльсона, Пёрсела, Марчэла і Чайкоўскага. Саліруе лаўрэат міжнародных конкурсаў Дзмітрый Маргулец.
Канцэрт прысвечаны 150-годдзю з дня нараджэння Эдуарда Вайніловіча.

**А.Р.**

# ЯЕ ЗЯЛЁНА-РУЖОВЫЯ ФАРБЫ



*Л.Пярвушкіна. "Восеньскі нацюрморт з яблыкамі".*

У пошуках сваёй ліры — менавіта гэтак можна акрэсліць творчы стан Людмілы Пярвушкінай, выстава жывапісу якой адкрылася ў канферэнц-зале Дома прэсы. На жаль, свята не атрымалася ўзнёслым і аптымістычным. Прычына таму — кола жыццёвых праблем, пра якія распавядала на адкрыцці экспазіцыі Людміла. Аб творчасці маладой мастачкі прысутным распавёў яе былы выкладчык Алег Луцэвіч.

Сярод карцін, што ўпершыню былі прадстаўлены гледачам, пераважная колькасць ранніх, вучнёўскіх. Але ўжо ў іх, на думку многіх, правільна вызначаны задачы прасторы, танальнасці, узаемасувязі рэчаў, удала выпісаны тонка згарманізаваныя колеры. Што датычыцца жанравай разнастайнасці выставы — гэта нацюрморты, краявіды, партрэты. Як прызналася аўтарка экспазіцыі, яна любіць скарыстоўваць на палотнах зялёна-ружовыя фарбы, таму што праз гэтыя колеры яна бачыць шмат патаемнага. Кожная праца нясе цеплыню, спакой. Жаночыя партрэты прымушаюць задумацца над адвечнымі тэмамі жыцця.

Хочацца пажадаць Пярвушкінай разам з віншаваннямі, каб яна ў сваёй творчасці крочыла наперад, а галоўнае — знаходзіла ў сабе сілы любіць сваю ліру.

**Наталля ЛУГАВАЯ**

# ДЗЕВЯЦЬ ПРЫГОЖЫХ ДЗЯЎЧАТ



У Палацы шлюбаў па вуліцы Камуністычнай пры творчым супрацоўніцтве калектыву часопіса "Мастацтва" і некамерцыйнай галерэі "Раліца" адкрылася выстава графічнай серыі "Летуценні" Алега Аблажэя, беларуса, які жыве ў Вільнюсе.

Мабыць, нездарма для сваёй экспазіцыі мастак выбраў Палац шлюбаў. Бо тая чысціня, што пранізвае калідоры будынка, прысутнічае і ў яго мастацкіх працах. Многія будучыя сем'і перад тым як распісацца змогуць дакрануцца да той прыгажосці, што ім падарыў спадар Аблажэй. І на мой погляд, гэта цудоўна. У падобных установах заўсёды хочацца бачыць нешта рамантычнае, летуценнае. Калі я разглядваў дзевяць прыгожых малюнкаў, дзевяць прыгожых дзяўчат, мне падалося, што з мастака атрымаўся б выдатны куцюр'е. Алег Аблажэй не рэаліст, а рамантык, страшэнны фантазёр, якому аднойчы сасніласяся, што ён — чарадзей. І гэты сон ён імкнецца спраўдзіць. Нездарма ж нядаўна ў Польшчы выйшла кніга казак, якую напісаў і афарміў Алег. Між іншым, напісаў ён яе па-польску!

**Зміцер ВОЛКАЎ**





У выставачнай зале Саюза мастакоў у Віцебску адкрылася персанальная выстава Алены Аладзьевай. Акварэлі, што прадстаўлены на выставе, сталі запамінальнай падзеяй у мастацкім жыцці горада над Дзвіной.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

# ДЗЕЛЯ БЯСПЕКІ РУХУ

***На працягу 1997 года Упраўленнем ДАІ МУС Беларусі і Беларускім Саюзам мастакоў сумесна з Беларускім фондам бяспекі руху праводзіцца выстава-конкурс на лепшы твор выяўленчага мастацтва, што адлюстроўвае пытанні бяспекі руху і дзейнасць Дзяржаўтаінспекцыі краіны.***

Мэта выставы-конкурсу: удасканаленне форм і метадаў уздзеяння на свядомасць удзельнікаў руху сродкамі жывапісу і графікі; прыцягненне да праблем забеспячэння бяспекі руху шырокай грамадскасці; пошук новых мастацкіх вырашэнняў у выбары тэматыкі для далейшага яе выкарыстання ў мэтах прапаганды бяспекі руху.

У конкурсе могуць узяць удзел як сябры БСМ, так і ўсе грамадзяне Беларусі, незалежна ад месца жыхарства і роду заняткаў пры ўмове выканання твораў на высокім прафесійным узроўні.

Творы неабходна прадставіць у БСМ з адзнакай "На конкурс ДАІ" альбо ў абласныя арганізацыі БСМ па месцы жыхарства з такой жа адзнакай.

Дастаўку твораў з мясцовых арганізацый у БСМ забяспечваюць адпаведныя падраздзяленні Дзяржаўтаінспекцыі.

*Тэрмін прадстаўлення твораў — не пазней за 31 снежня 1997 года.*

Вынікі конкурсу будуць падведзены да 30 студзеня 1998 года.

Зацверджана журы ў складзе вядомых мастакоў, а таксама супрацоўнікаў УДАІ МУС Беларусі і Беларускага фонду бяспекі руху. Старшыня журы — заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Леанід Дударэнка.

*Беларускім фондам бяспекі руху зацверджаныя:*

*а) для жывапісных твораў:*

— Гран-пры — грашовая прэмія ў памеры 75 мінімальных заработных плат;

— I прэмія — 60 мінімальных зарплат;

— II прэмія — 40 мінімальных зарплат;

— III прэмія — 40 мінімальных зарплат.

Акрамя гэтага заснаваны пяць заахвочвальных прэмій у памеры 20 мінімальных зарплат кожная.

*б) для графічных твораў:*

— Гран-пры — 40 мінімальных зарплат;

— I прэмія — 35 мінімальных зарплат;

— II прэмія — 30 мінімальных зарплат;

— III прэмія — 25 мінімальных зарплат.

Акрамя гэтага заснаваны пяць заахвочвальных прэмій у памеры 15 мінімальных зарплат кожная.

Усе прэміраваныя творы робяцца маёмасцю Упраўлення ДАІ МУС Беларусі.

# "ЦІ ВЕДАЕШ ТЫ?.."

Гомель правёў Свята горада, прысвечанае 855-годдзю першага летапіснага ўпамінання і 200-годдзю палацава-паркавага ансамбля Румянцавых-Паскевічаў.

Цэнтральная гарадская бібліятэка імя А.Герцэна сумесна з абласным краязнаўчым музеем і газетай абласнога тэлерадыёаб'яднання "Тэлепанарама" арганізавала конкурс "Ці ведаеш ты гісторыю роднага горада?", фінальны тур якога і адбыўся напярэдадні Свята ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Герцэна.

Госці конкурсу: А.Рогалеў — дацэнт кафедры рускага, агульнага і славянскага мовазнаўства Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф.Скарыны, Р.Андрэявец — галоўны рэдактар адзінага на Гомельшчыне літаратурна-гістарычнага і грамадска-культурнага часопіса "Палессе", Ю.Фатнеў — гомельскі пісьменнік, аўтар 9 паэтычных зборнікаў і гістарычных раманаў, прафесійнае журы на чале з Л.Клімовічам і іншыя госці, а таксама гледачы сталі сведкамі першага падобнага мерапрыемства ў горадзе.

На конкурсе быў абвешчаны і пераможца — настаўнік СШ № 69 Гомеля Алег Лейнаў, прыз сімпатый гледачоў ад таварыства "Кніга" арымала Алена Крайнева, вучаніца СШ № 4.

Вядома ж, былі і прызы. Гэта юбілейныя сувеніры фабрыкі "Палесдрук", кветкі і сувеніры з юбілейнай сімволікай ад парка культуры і адпачынку імя Луначарскага, аўдыёкасеты і кампактдыскі ад газеты "Тэлепанарама", кнігі ад вытворча-камерцыйнай фірмы і ганаровыя граматы фіналістам гарадскога аддзела культуры.

*Помнік графу Румянцаву і Гомельскі палац.*

**Н.ЛІТВІНАВА**
*Гомель*
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

*Ліст у рэдакцыю*

# ПАВАЖАНАЯ "КУЛЬТУРА"!

Прачыталі за 13 — 19 верасня 1997 года Вашу газету. Дзякуй Вам, што ўзнімаеце пытанні аб творчых людзях — мастаках.

Сямён Герус, з болем у сэрцы, узнімае пытанне, вельмі балючае для мастакоў, аб жыцці і працы творчых людзей. Гэта адносіцца і да сталых ветэранаў вайны, ветэранаў працы, народных, заслужаных мастакоў і да моладзі. Як выжыць? Мастаку нельга працаваць без працоўнага месца, а гэта — творчая майстэрня! Без яе мастак, як без рук. Гарадскія чыноўнікі ўчынілі здзек над мастакамі! Зараз яны аплачваюць за майстэрню ў некалькі разоў больш, чым за кватэру, камунальныя паслугі. Не Саюз мастакоў аплочвае, а мы — мастакі, якія зараз выжываюць на жабрацкім узроўні. Мы не камерсанты, не прадпрымальнікі, а творчыя працаўнікі! Ці магчыма аплочваць свае працоўныя месцы так дорага? Ці аплочваюць свае кабінеты чыноўнікі? Мы жадаем аплочваць па разумных цэнах! Такой знявагі няма ў іншых краінах, дзе паважаюць выяўленчае мастацтва, культуру! Трэба пачынаць са сваёй роднай мовы! Яе нам Бог даў. Маці і бацьку не выбіраюць.

**Група мастакоў**

# САМААХВЯРНЫ АДКРЫЎЦА



Цяжка пагадзіцца з думкаю, што не чуем больш яго энергічнага гучнага голасу, не бачым на занятках у Беларускай акадэміі мастацтваў яе самага жыццярадаснага прафесара Міхася Фёдаравіча Раманюка. Ён гуртаваў вакол сябе не толькі студэнтаў, што потым сталі яго добрымі калегамі, сябрамі-аднадумцамі, але ўсіх зацікаўленых у культурным адраджэнні Бацькаўшчыны. Хто ж не ведаў Міхася Раманюка, нястомнага збіральніка народных скарбаў, першым сярод якіх быў для даследчыка, этнографа, этнолага, мастака ў адной асобе Беларускі нацыянальны касцюм? Кажам пра касцюм з вялікай літары, бо Раманюк ўзвысіў наша традыцыйнае, нат забытае многімі адзенне да вяршынь еўрапейскага прызнання. Зразумеў ён значнасць гэтага наўперш сам, калі рос у вёсцы Старынкі, што ля Дзяржынска на Міншчыне; пераканаў сваіх сучаснікаў, калі пасля дзесяцігоддзяў пошукавай працы перш за ўсё ў вёсках, сярод простых і шчырых нашых землякоў знаходзіў цудоўныя ўзоры традыцыйных строяў, якія, мабыць, іншаму бабулі і не паказалі б. Ён быў надзвычай кантактны і сяброўскі чалавек. Перад ім людзі простыя не таіліся, паказвалі, распавядалі, прыгадвалі тое колішняе і ўласнае памяці і памяці іх дзядоў. І Міхась Фёдаравіч Раманюк за лічаны час здолеў сабраць найкаштоўнейшую спадчыну, якой хопіць не на адну энцыклапедыю. І спачыў назаўжды вялікі адкрыўца на роднай зямлі ў той жа вёсцы Старынкі на высокім пагорку могілак, пахаваны сёлета 6 верасня. Такая была яго апошняя воля. Быць, застацца назаўджы з родным народам, у яго трывалай памяці.





Творчы энтузіязм, шматпланавая навуковая і грамадская дзейнасць Міхася Раманюка не можа не заклікаць да служэння нацыянальным ідэалам новыя пакаленні даследчыкаў, сярод якіх зараз шмат тых, хто сутыкнуўся з ім у працы, у вучобе. Кожны зараз адчувае сябе, магчыма, і больш сталым і адказным, калі месца лідэра-пачынальніка, шчырага дарадчыка і старэйшага сябра апусцела. Раманюк быў непаўторны, выключны, самаахвярны, таленавіты творца беларускай культуры. І зараз тыя, каго кранае светлая памяць аб ім, не могуць не яднацца ў вялікай творчай справе, якую трэба вырашаць толькі разам.

Цяжка меркаваць, як у бліжэйшы час паставяцца дзяржаўныя структуры да скарбу, пакінутага вялікім даследчыкам. Ці паспяшаюцца з выданнямі, як было аднойчы на пачатку 80-х гадоў, калі свет убачыў цудоўны альбом М.Раманюка "Беларускае народнае адзенне"? Але і грамадская ініцыятыва мае не апошняе значэнне, бо многія спецыялісты з розных галін ведаў могуць скарыстацца вынікам даследавання ў вучонага і працягнуць перапыненую ў палёце ідэю асэнсавання нашых традыцыйных рыс самабытнасці як нацыі з вялікім мінулым. Тут нават цяжка зараз вызначыць усе параметры такой дыскусіі, канферэнцыі, вялікай навуковай сустрэчы міжнароднага характару, што перыядычна будзе звязана з ушанаваннем творчых здабыткаў М.Раманюка. Але вельмі многім знаўцам ёсць што высвятліць у гэтым пытанні. І таму такая падзея абавязкова не раз адбудзецца. Неўзабаве з'явяцца і іншыя праекты, што будуць праявай удзячнай памяці нашчадкаў і адкрыўчым рухам наперад, як спадзяваўся нястомны шукальнік і прапагандыст нашае агульнае спадчыны.

У многіх нашых сучаснікаў з Міхасём Фёдаравічам Раманюком звязаны вельмі цёплыя асабістыя ўспаміны, пра якія варта прыгадваць і прыгадваць. Ёсць яны, канешне, і ў аўтара гэтых радкоў. Памятаецца, як у далёкія 70-я гады ў летніх студэнцкіх экспедыцыях вандравалі па беларускіх вёсках, збіраючы патрэбны этнаграфічны матэрыял, як потым ладзілі канферэнцыі, рыхтавалі даклады, поўныя хвалявання і надзеі, што робім нешта небывалае. А Міхась Фёдаравіч кожнага шчыра падтрымліваў, даваў парады, кажучы: "Ты робіш адкрыццё!" Гэта было такім важным акрыляльным прызнаннем для многіх маладых, тады яшчэ пачаткоўцаў у мастацтве і навуцы. Таму і надалей немагчыма не рабіць адкрыцці, не верыць у невычэрпныя магчымасці нашае культуры, сярод сузор'я незабыўных дзеячаў якой — светлае імя выдатнага Творцы і Чалавека Міхася Фёдаравіча Раманюка.

**Яўген ШУНЕЙКА, мастацтвазнаўца**

## Панядзелак, 13 кастрычніка

### Беларускае тэлебачанне

**7.30** Ранішні кактэйль.
**7.45** "Музычная абойма".
**7.50** "Захопленыя". Дак. фільм.
**8.00** Рэзананс.
**8.45** "Тэлебарометр".
**8.55** Здароўе. Наркаманія: погляд з розных бакоў.
**9.30** Эканамікст.
**9.40** "Травяная пастачка", "Цудоўныя лекі". Мультфільмы.
**10.05** Цёмны пакой. "Ню, ці аголены чалавек".
**10.30** Тэлевізійны Дом кіно. Актрысы Любоў Палішчук і Ларыса Удавічэнка.
**11.00** "Толькі ў мюзік-холе". Маст. фільм.
**12.05** Люстэрка. Праграма для жанчын.
**12.25** Бон тон. Тэлечасопіс моды.
**13.00**, 15.00 Навіны.
**15.15** Відэакурс нямецкай мовы. Перадача 1-я.
**15.45** Тэлебачанне — школе. Гісторыя Беларусі. 6-ы клас. Усходнія славяне на тэрыторыі Беларусі.
**16.15** "На добры лад". Перадача з Брэста.
**16.30** Госці ў дом. Адкрыццё тэатральнага сезона ў свеце.
**17.00** Музычны антракт.
**17.10** Параграф. Рынак працы.
**17.45** Эканамікст.
**17.55** "Музычная абойма".
**18.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**18.15** "Толькі ў мюзік-холе". Маст. фільм.
**19.20** Тэма дня.
**19.40** Простыя аповяды. "Зямлю не падманеш..." Тэленарыс пра дырэктара Нясвіжскай гатункавыпрабавальнай станцыі І. І. Горбача.
**20.00** Крымінальная хроніка.
**20.20** "Хто гэта?" Тэлегульня.
**20.25** Музычны антракт.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.50** А. Макаёнак. "Зацюканы апостал". Фільм-спектакль.
**23.35** Вакальная група "Дайджэст" (г. Санкт-Пецярбург).
**0.05** Навіны.

### ГРТ

**8.00**, 11.00, 17.00, 0.15 Навіны.
**8.15** "Дзяўчына па імені Лёс".
**9.00** Поле цудаў.
**9.55** Здароўе.
**10.20** Дамашняя бібліятэка.
**10.30** "Адгадай мелодыю".
**14.20** "Драконы падзямелляў".
**14.45** Марафон-15.
**15.05** Зорная гадзіна.
**15.40** "Касмічная паліцыя".
**16.05** ...Да шаснаццаці і старэй.
**16.30** "100 гадоў прыгод". Серыял.
**17.20** "Дзяўчына па імені Лёс".
**18.00** Надвор'е.
**18.10** Гадзіна пік.
**18.35** "Адгадай мелодыю".
**19.00** Панядзелак з Познерам. Праграма "Чалавек у масцы".
**19.45** Добрай ночы, малышы!
**20.00** Час.
**20.45** "Полтэргейст-2". Серыял.
**21.40** "Тэатр + ТВ". Міхаіл Філіпаў.
**22.25** Прыгоды Астапа Бендэра ў фільме "Мары ідыёта".
**0.25** Праграма перадач.

### Расія

**7.00**, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Весткі.
**7.20** Дзяжурная часць.
**7.35** "Італьянскі рэстаран". Тэлесерыял (Італія). 1-я серыя.
**8.35** Дак. экран. "Гісторыя адной падзеі".
**8.50**, 9.50, 24.00 Тавары — поштай.
**9.00**--10.20 "Санта-Барбара".
**13.30** Сафі Ларэн і Сільвана Мангана ў фільме "Золата Неапаля".
**15.10** Графаман.
**15.20** Лепш не бывае.
**15.25** Экспавеснік.
**15.30** На парозе стагоддзя.
**16.20** Праваслаўны каляндар.
**16.25** "Санта-Барбара".
**17.20** Лукамор'е.
**17.40** "Гісторыя адной падзеі".
**17.55** "Італьянскі рэстаран". 1-я серыя.
**19.35** Нацыянальны інтарэс.
**20.05** Долф Лунгрэн у фільме "Пад прыцэлам" (ЗША).
**21.50** Мой Пушкін.
**22.15** Своечасова.
**22.25** Добры вечар.
**23.10** Дзяжурная часць.
**23.25** Лесвіца ў неба.
**23.55**—0.05 Прагноз надвор'я.

### Санкт-Пецярбург

**12.30**, 15.30, 18.30, 21.30 Інфарм ТБ.
**12.45** "Забойны аддзел-2". Серыял (ЗША).
**13.35** Тэрмін адказу — сёння.
**14.05** Парады садаводам.
**14.25** Тэатральная правінцыя?..
**14.55** Міжнародны агляд.
**15.40**, 20.30 Тэлеслужба бяспекі.
**15.55**, 20.00 Тэлестанцыя "Мая Расія".
**16.40** "Там, дзе жыве Павуціныч", "Кацяня па мянушцы Гаў", "Каша-малаша".
**17.25** Тэлемагазін.
**18.45** Спорт.
**18.55** Вялікі фестываль.
**19.10** "Забойны аддзел-2". Серыял.
**20.45** Пенальці.
**21.45** Інфарм ТБ.
**21.50** Спорт.
**21.55** Рытмы горада.
**22.30** "Свабодны палёт". Музычная праграма.
**23.05**—23.45 Баскетбол. "Спартак"—ЦСКА.

### НТБ

**5.00**, 9.00 Сёння раніцай.
**8.05** "Тайныя злачынствы". Серыял.
**9.15** Маскі-шоу: выбранае.
**9.45** Кнопка плюс.
**10.00** "Доктар Куін, жанчына-ўрач". Серыял.
**11.00**, 13.00, 15.00 Сёння ўдзень.
**11.20** Стары тэлевізар.
**13.20**, 15.20 Фінансы і бізнес.
**13.30** "Я памру, каб жыць. Густаў Малер". Маст. фільм (Германія).
**15.30** "Вуліца Сезам".
**16.00** "Гісторыя сабакі". Фільм 5-ы "Аб пародах" (Вялікабрытанія).
**16.50** Крымінал.
**16.55** У запас.
**17.10** Дыстанцыя.
**17.40** Футбольны клуб.
**18.00**, 21.00 Сёння ўвечары.
**18.40** Герой дня.
**19.00** Гістарычны баявік "Вялікі шаўковы шлях" (Японія).
**21.45** "Доктар Куін, жанчына-ўрач". Серыял.
**22.35** Сённячка.
**23.00** Сёння апоўначы.
**23.25** Сінеманія: усё пра кіно.

### 8-ы канал

**18.00** Для дзяцей. "Свавольнікі".
**18.30** Праграма К.Копланда.
**19.00** "Сірэны". Серыял.
**20.00** Аэробіка "Новы Эдэм".
**20.30** Вечарніца.
**20.45** "Лабірынты кахання". Серыял.
**22.30** "Прыгоды прыватнага дэтэктыва Нестара Бурмы". Маст. фільм.

## Аўторак, 14 кастрычніка

### Беларускае тэлебачанне

**7.30** Ранішні кактэйль.
**7.45** "Музычная абойма".
**7.50** "Тулеген". Дак. фільм.
**8.00** Навіны.
**8.10** "Фантазія". Фільм-канцэрт.
**8.30** Беларускі мерыдыян. Замкі роду Сапегаў.
**9.00** Тэлебачанне — школе. Гісторыя Беларусі. 6-ы клас. Усходнія славяне на тэрыторыі Беларусі.
**9.30** Эканамікст.
**9.40** "Алёнушка і салдат". Мультфільм.
**10.05** А. Харытонаў, С. Бандарчук, А. Вярцінская ў маст. фільме "Авадзень". 1-я серыя. "Памяць".
**11.10** Лаўрэат тэлефестывалю народнай творчасці фальклорны гурт "Ліцвіны".
**11.30** Творцы. Паэтэса Ала Пакроўская.
**12.05** Чацвёртае вымярэнне. Навукова-папулярная праграма.
**12.30** Акалада. Музычна-забаўляльная праграма.
**13.00**, 15.00 Навіны.
**15.10** "Маці чалавечая". Дак. фільм БТ.
**15.40** "Я малюю".
**15.55** Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 8-ы клас. Мікалай Гусоўскі і яго паэма "Песня пра зубра".
**16.25** "Дыялог з майстрам". Тэленарыс пра бондара з Пружанскага раёна А. Грышкевіча.
**16.40** "Заходняя мяжа". Перадача з Брэста.
**17.00** Музычны антракт.
**17.10** Урокі Наталлі Навагжылавай.
**17.40** "Музычная абойма".
**17.45** Эканамікст.
**17.55** "Маці божа". Музычна-паэтычная кампазіцыя.
**18.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**18.15** А. Харытонаў, С. Бандарчук, А. Вярцінская ў маст. фільме "Авадзень". 1-я серыя. "Памяць".
**19.20** Тэма дня.
**19.40** Вертыкаль. Адзін дзень са старшынёй Гарадоцкага райвыканкома А. Г. Койрам.
**20.05** Музыка без межаў.
**20.30** Восень — работ восем.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.50** "Маці Ісуса". Маст. фільм.
**23.20** Трэці тайм.
**23.50** Навіны.

### ГРТ

**8.00**, 11.00, 14.00, 17.00, 23.35 Навіны.
**8.15** "Дзяўчына па імені Лёс".
**9.00** "Чалавек у масцы".
**9.40** "Смехапанарама".
**10.20** Дамашняя бібліятэка.
**10.30** "Адгадай мелодыю".
**14.20** "Драконы падзямелляў".
**14.45** Квар'етэ "Вясёлая квампанія".
**14.55** Шчаслівы выпадак.
**15.40** "Касмічная паліцыя".
**16.05** ...Да шаснаццаці і старэй.
**16.30** "100 гадоў прыгод". Серыял.
**17.20** "Дзяўчына па імені Лёс".
**18.00** Футбол. "Тарпеда-Лужнікі"—"Дынама" (Масква).
**19.45** Добрай ночы, малышы!
**19.50** Надвор'е.
**20.00** Час.
**20.45** Страшная гісторыя ад Сціvена Кінга. Фільм "Далорэс Клейборн".
**23.10** Хакей. "Дынама" (Масква)—"Бальцана" (Італія).
**0.45** Праграма перадач.

### Расія

**7.00**, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Весткі.
**7.20** Дзяжурная часць.
**7.35** "Італьянскі рэстаран". 2-я серыя.
**8.35** "Гісторыя адной падзеі".
**8.50**, 9.50, 0.25 Тавары — поштай.
**9.00**–10.20 "Санта-Барбара".
**13.30** Мамука Кікалейшвілі ў фільме "Нулявы варыянт".
**15.05** "Светлячок". Мультфільм.
**15.10** Графаман.
**15.20** Лепш не бывае.
**15.25** Экспавеснік.
**15.30** Новае "Пятае кола".
**16.20** Праваслаўны каляндар.
**16.25** "Санта-Барбара".
**17.20** Лукамор'е.
**17.40** "Гісторыя адной падзеі".
**17.55** "Італьянскі рэстаран". 2-я серыя.
**19.35** Нацыянальны інтарэс.
**20.10** Фільм Андрэя Смірнова "Восень".
**21.50** Мой Пушкін.
**22.15** Своечасова.
**22.25** Добры вечар.
**23.10** Дзяжурная часць.
**23.25** Гарачая дзесятка.
**0.20**--0.30 Надвор'е.

### Санкт-Пецярбург

**12.30**, 15.30, 18.30, 21.30 Інфарм ТБ.
**12.45** "Забойны аддзел-2". Серыял.
**13.35** Тэрмін адказу — сёння.
**14.05** Парады садаводам.
**14.25** Раман з героем.
**14.55** Авертайм.
**15.40**, 20.30 Тэлеслужба бяспекі.
**15.55**, 20.00 Тэлестанцыя "Мая Расія".
**16.40** "Ад і да...", "Кухня баршчу", Студыя "Уяві".
**17.25** Тэлемагазін.
**18.45** Спорт.
**18.55** Вялікі фестываль.
**19.10** "Забойны аддзел-2". Серыял.
**20.45** У. Успенскі. Старонкі творчасці.
**21.45** Інфарм ТБ.
**21.50** Спорт.
**21.55**—22.55 "Жалезная заслона". Маст. фільм (Расія). 1-я серыя.

### НТБ

**5.00**, 9.00 Сёння раніцай.
**8.05** "Тайныя злачынствы". Серыял.
**9.15** Я і мой сабака.
**9.45** "Усяго" з Віктарам Шандаровічам.
**10.00** "Доктар Куін, жанчына-ўрач". Серыял.
**11.00**, 13.00, 15.00 Сёння ўдзень.
**11.20** Стары тэлевізар.
**13.20**, 15.20 Фінансы і бізнес.
**13.30** Меладрама "Шарль і Люсі" (Францыя).
**15.30** "Вуліца Сезам".
**16.00** "Гісторыя сабакі". "Цана сяброўства". Дак. серыял.
**16.50** У запас.
**17.00** Дыстанцыя.
**17.30** Футбольны клуб.
**17.45** Зварот Найсвяцейшага Патрыярха Маскоўскага і ўсея Русі Алексія ІІ, прысвечаны святу Пакрова Прасвятой Багародзіцы.
**18.00**, 21.00 Сёння ўвечары.
**18.40** Герой дня.
**19.00** Лірычная камедыя "Гаспадыня" (ЗША).
**21.45** "Доктар Куін, жанчына-ўрач". Серыял.
**22.35** Сённячка.
**23.00** Сёння апоўначы.
**23.25** "Футбольны клуб".
**0.15** Драма "Калі надыходзіць ноч" (ЗША).

### 8-ы канал

**18.00** Для дзяцей. "Свавольнікі".
**18.30** Праграма Кенета Копланда.
**19.00** "Джэферсан у Парыжы". Маст. фільм.
**20.30** Вечарніца.
**20.45** "Людвіг". Серыял.
**21.45** Служба аператыўнай інфармацыі.
**22.00** Таццяна Васільева ў маст. фільме "Белы кароль, чырвоная каралева".



"Што за страсці?" — спытаеце вы. Дарэчы, і мы спыталі пра тое ж у нашага карэспандэнта Ігара Клокава, угледзеўшы яго ў чорных акулярах максімальна набліжаным да сталі. Дэтэктыў? "Ды не, — растлумачыў ён. — Проста не ўспрымаю экзерсісы з тэлеэкрана. Давялося "пранікнуць" у тэлестудыю, каб пабачыць "жыўцом" Ларысу Сімаковіч, кіраўніка фальклор-тэатра "Госціца". І настолькі яна экспрэсіўная асоба, што загнала мяне, прабачце, у кут"... Дэтэктыў?

Падгледзеў Генадзь ЖЫНКОЎ

## Серада, 15 кастрычніка

### Беларускае тэлебачанне

**7.30** Ранішні кактэйль.
**7.45** "Музычная абойма".
**7.50** "Дзівак". Дак. фільм.
**8.00** Навіны.
**8.10** Сядзіба. Праграма для дачнікаў.
**8.40** Тураб'ектыў.
**9.00** Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 8-ы клас. Мікола Гусоўскі і яго паэма "Песня пра зубра".
**9.30** Эканамікст.
**9.40** "Уся справа ў капелюшы".
**10.05** Абібок.
**10.35** Камп'ютэрны палігон.
**10.55** Балет Я. Панфілава "Барабаны для Сусвету і скрыпка для смутку".
**11.40** "Мастацтва ўсіх часоў і народаў". Дак. фільм.
**12.00** Відзьма-нявідзьма.
**13.00**, 15.00 Навіны.
**15.15** Відэакурс нямецкай мовы. Перадача 2-я.
**15.35** "Прыгоды маленькіх сяброў". Мультфільмы 1-ы і 2-гі.
**16.10** "Насустрач".
**16.40** "5х5". Інфармацыйна-забаўляльная праграма для старшакласнікаў.
**17.10** "Марсава поле". Музычна-забаўляльная праграма.
**17.45** Эканамікст.
**17.55** "Музычная абойма".
**18.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**18.20** Футбол. "Белшына" (Бабруйск)—"Дынама" (Мінск).
**19.20** Тэма дня.
**19.40** Цёмны пакой. "Дакладна".
**20.05** Ток-шоу "Гэта мая работа". Прафесія: трэнер.
**20.30** Аўта-парк.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.50** Л. Савельева і А. Баталаў у маст. фільме "Бег". 1-я серыя.
**23.25** Каралеўскае паляванне.
**0.05** Навіны.

### ГРТ

**8.00**, 11.00, 14.00, 17.00, 23.55 Навіны.
**8.15** "Дзяўчына па імені Лёс".
**9.00** Хакей. "Цуг" (Швейцарыя)— "Лада" (Тальяці).
**9.40** У свеце жывёл.
**10.15** Дамашняя бібліятэка.
**10.25** Джэнтльмен-шоу.
**14.20** "Драконы падзямелляў".
**14.45** Кактус і К°.
**14.55** До-мі-соль.
**15.15** Покліч джунгляў.
**15.40** "Касмічная паліцыя".
**16.05** ...Да шаснаццаці і старэй.
**16.30** "100 гадоў прыгод".
**17.20** "Дзяўчына па імені Лёс".
**18.00** Надвор'е.
**18.10** Гадзіна пік.
**18.35** Леанід Ярмольнік у тэлегульні "Залатая ліхаманка".
**19.10** Чалавек і закон.
**19.45** Добрай ночы, малышы!
**20.00** Час.
**20.45** Камедыя "Залатое цяля". 1-я і 2-я серыі.
**0.05** Праграма перадач.

### Расія

**7.00**, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Весткі.
**7.20** Дзяжурная часць.
**7.35** "Італьянскі рэстаран". 3-я серыя.
**8.35** "Гісторыя адной падзеі".
**8.50**, 9.50 Тавары — поштай.
**9.00**--10.20 "Санта-Барбара".
**13.30** Міхаіл Лаўроўскі ў фільме-балеце "Фантазёр".
**15.10** Графаман.
**15.20** Лепш не бывае.
**15.25** Экспавеснік.
**15.30** Залатая карта Расіі.
**16.20** Праваслаўны каляндар.
**16.25** "Санта-Барбара".
**17.15** Надвор'е.
**17.20** Лукамор'е.
**17.40** "Гісторыя адной падзеі".
**17.55** "Італьянскі рэстаран". 3-я серыя.
**19.35** Нацыянальны інтарэс.
**20.10** Урачысты вечар, прысвечаны ўзнагароджанню пераможцаў штогадовага нацыянальнага конкурсу "Настаўнік года-97".
**21.50** Мой Пушкін.
**22.15** Своечасова.
**22.25** Добры вечар.
**23.10** Дзяжурная часць.
**23.25** Лесвіца ў неба.
**23.55** Надвор'е.

### Санкт-Пецярбург

**12.30**, 15.30, 18.30, 21.30 Інфарм ТБ.
**12.45** "Забойны аддзел-2".
**13.35** Тэрмін адказу — сёння.
**14.05** Парады садаводам.
**14.25** Да 85-годдзя Л. М. Гумілёва. "Залатая восень цывілізацыі".
**14.55** Тата, мама, я — спартыўная сям'я.
**15.40**, 20.30 Тэлеслужба бяспекі.
**15.55**, 20.00 Тэлестанцыя "Мая Расія".
**16.35** "Пахаванне было не адпета..." Пра жыццё і творчасць М. Ю. Лермантава.
**17.25** Тэлемагазін.
**18.45** Спорт.
**18.55** Вялікі фестываль.
**19.10** "Забойны аддзел-2".
**20.45** Скарбы Пецярбурга. "Даная".
**21.10** "Рамантычныя мініяцюры". Музычны фільм.
**21.45** Інфарм ТБ.
**21.50** Спорт.
**21.55**—22.55 "Жалезная заслона". Маст. фільм (Расія). 2-я серыя.

### НТБ

**5.00**, 9.00 Сёння раніцай.
**8.05** "Цыркавыя прыгоды".
**9.15** Тэлегульня "Зразумей мяне".
**9.50** Лялькі.
**10.00** Лепшыя цыркі свету.
**11.00**, 13.00, 15.00 Сёння ўдзень.
**11.20** Трылер "Чорная серыя" (Францыя).
**13.20**, 15.20 Фінансы і бізнес.
**13.30** Камедыя "Прывітанне, мама" (ЗША).
**15.30** "Вуліца Сезам".
**16.00** "Доктар Куін, жанчына-ўрач". Серыял.
**16.50** Крымінал.
**16.55** У запас.
**17.10** Дыстанцыя.
**17.40** Футбольны клуб.
**18.00**, 21.00 Сёння ўвечары.
**18.40** Герой дня.
**19.00** Дэтэктыў "Ледзяныя грудзі" (Францыя—Італія).
**21.45** "Доктар Куін, жанчына-ўрач". Серыял.
**22.35** Сённячка.
**23.00** Сёння апоўначы.
**23.25** Хакей. "Нью-Йорк Рэйнджэрс"—"Пітсбург Пінгвінз".

### ТБ-6 Масква

**14.00**, 17.00, 20.00, 22.45 "Шэсць навін".
**14.15** "Светлая асоба". Маст. фільм.
**15.45** Тэлемагазін.
**16.05** "Фліпер". Серыял.
**16.35**, 23.15, 0.25 Дыск-канал.
**17.10**, 23.00 Дарожны патруль.
**17.25** Шоу Івана Дзямідава "Абоз".
**18.20** Знак якасці.
**19.00** "Хронікі маладога Індыяны Джонса".
**20.20** Ток-шоу "Я сама".
**21.25** "Рыцар Кенет". Маст. фільм.
**00.00** "Знак якасці".

### 8-ы канал

**18.00** Для дзяцей. "Свавольнікі".
**18.30** Праграма Кенета Копланда.
**19.00** "Сірэны". Серыял.
**20.00** Аэробіка "Новы Эдэм".
**20.30** Вечарніца.
**20.45** "Людвіг". Серыял.
**21.45** Паліскоп.
**22.00** Меладрама "Кэрынгтон".

## Чацвер, 16 кастрычніка

### Беларускае тэлебачанне

**7.30** Ранішні кактэйль.
**7.44** Рэклама.
**7.45** "Музычная абойма".
**7.50** Аўта-парк.
**8.00** Навіны.
**8.10** Вертыкаль. Адзін дзень са старшынёй Гарадоцкага райвыканкома А. Г. Койрам.
**8.35** "Дубрава". Дак. фільм.
**9.10** Кола часу. Уладзіслаў Сыракомля: гісторык, географ, паэт.
**9.30** Эканамікст.
**9.40** Тэлебом. Шоу-конкурс у Магілёве.
**10.15** Госці ў дом. Адкрыццё тэатральнага сезона ў свеце.
**10.45** "Музыка без межаў".
**11.10** "Авадзень". 2-я серыя "Джэма".
**12.15** Каралеўскае паляванне.
**13.00**, 15.00 Навіны.
**15.15** "Маці міласэрная". Дак. фільм.
**16.10** Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 7-ы клас. Аповесць Васіля Быкава "Жураўліны крык".
**16.45** "З жыцця невядомай асобы". Тэленарыс пра народнага майстра М. Ясмянкова з г. Глуска.
**17.00** Музычны антракт.
**17.10** Урокі Наталлі Наважылавай.
**17.45** Эканамікст.
**17.55** "Музычная абойма".
**18.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**18.15** "Авадзень". 2-я серыя "Джэма".
**19.20** Тэма дня.
**19.45** Зроблена ў Беларусі. Беларускі металургічны завод.
**20.00** "Эпіфаніі". Відэаэцюды паводле апавяданняў Іманта Зіедоніса.
**20.25** Музычны антракт.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.50** "Тэлебарометр".
**22.05** Л. Савельева і А. Баталаў у маст. фільме "Бег". 2-я серыя.
**23.45** Крок. Праграма для моладзі.
**0.15** Навіны.

### ГРТ

**8.00**, 11.00, 14.00, 17.00, 23.40 Навіны.
**8.15** "Дзяўчына па імені Лёс".
**9.00** Чалавек і закон.
**9.35** Пакуль усе дома.
**10.10** Смак.
**10.30** "Адгадай мелодыю".
**14.20** "Драконы падзямелляў".
**14.45** Чароўны свет, ці сінема.
**15.10** Лега-го!
**15.35** "Касмічная паліцыя".
**16.05** ...Да шаснаццаці і старэй.
**16.30** "100 гадоў прыгод". Серыял.
**17.20** "Дзяўчына па імені Лёс".
**18.00** Надвор'е.
**18.10** Гадзіна пік.
**18.35** "Адгадай мелодыю".
**19.00** "Каб помнілі..." Мікалай Рыбнікаў. Вядучы — Л. Філатаў.
**19.45** Добрай ночы, малышы!
**20.00** Час.
**20.45** Нона Мардзюкова і Мікалай Рыбнікаў у фільме "Чужая радня".
**22.35** "Каскадзёры. Свет трукаў".
**23.00** "Вайнахі. Паміж мінулым і будучым". Дак. фільм.
**23.50** Праграма перадач.

### Расія

**7.00**, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Весткі.
**7.20** Дзяжурная часць.
**7.35** "Італьянскі рэстаран". 4-я серыя.
**8.35** "Гісторыя адной падзеі".
**8.50**, 9.50, 0.10 Тавары — поштай.
**9.00**--10.20 "Санта-Барбара".
**13.30** "Варварын дзень". Маст. фільм.
**14.40** Бясконцае падарожжа.
**15.10** Графаман.
**15.20** Лепш не бывае.
**15.25** Экспавеснік.
**15.30** Ваша саслоўе.
**16.20** Праваслаўны ка-

# Бамонд: Опера і Балет

## OPUS №1

### Уверцюра

*— ...Калі я чую размажанні кшталту: "Балет — гэта яшчэ куды ні йшло, а опера — гэта нудна, нічога не зразумела і нікому не патрэбна!", — калі я чую такое, я гэта проста не хачу абмяркоўваць. Гэта — дрымучасць, гэта — катастрофа экалогіі духу!*

*Так выказаўся падчас аднаго з перадюбілейных (у кастрычніку ён святкуе сваё пяцідзесяцігоддзе) інтэрв'ю маэстра Аляксандр Анісімаў. Можа, надта жорстка. Між тым кожны, для каго слова "культура" мае рэчавы сэнс, захоўвае асабістае меркаванне наконт элітарных жанраў мастацтва — оперы і балета. Мы не ставім мэтай гэтыя меркаванні мяняць. Прапануем проста больш пільна прыгледзецца да той элітарнасці, спадзяемся, гэта будзе цікава чытачам новай мегарубрыкі "Культуры" з назвай "Бамонд: Опера і Балет".*

**Ігар КЛОКАЎ**

# СТВАРЭННЕ СВЕТУ ПАВОДЛЕ ЕЛІЗАР'ЕВА

### Антрэ

***Валянцін Мікалаевіч Елізар'еў не абыдзены ўвагай журналістаў, пісьменнікаў, рэжысёраў. Не дзіва: тое, што зроблена ім — галоўным балетмайстрам і кіраўніком Нацыянальнага тэатра балета, — уражвае калегаў, захоплівае гледачоў. Яго ведаюць па ўсёй Беларусі, па ўсім былым СССР і шмат дзе ў свеце. Ад першых сваіх балетаў, ужо больш чвэрці веку, ён стварае свой свет. А яму — толькі пяцьдзесят!***

**Чаго нестае ў гэтым свеце, створаным самім Майстрам і вакол яго? — пытанні да юбіляра. Можа, не хапае ў ім разнастайнасці?**

— Нацыянальны тэатр балета трымае практычна неабсяжны рэ-




пертуар з 28 назваў, дзе кожны таленавіты выканаўца можа знайсці сябе, для гледача ж гэта, перш-наперш — разнастайнасць уражанняў.

Я не прэтэндую на якія-небудзь наватарствы па-за рэчышчам класічнага танца. Я працягваю традыцыі класічнага танца, у мяне такі тэатр, і я наўмысна працую ў гэтым накірунку і шукаю новыя формы класікі. Вельмі памыляюцца балетмайстры сучасных школ наконт неабсяжнасці сваіх выяўленчых сродкаў — менавіта гэтага ім і не хапае. Толькі класічны танец дазваляе дакладна рэалізаваць любую тэму. І, з другога боку, кожная такая рэалізацыя непазбежна будзе прапітана духам сучаснасці.

**Можа, не хапае цярпімасці да калегаў-"іншадумцаў"?**

— У свой час, у 1982 годзе, у якасці стыпендыята я доўгі час жыў у Парыжы, бачыў шмат з таго, аб чым любяць разважаць аматары мадэрна. Што я заўважыў: на добрыя — і нават на кепскія! — класічныя балеты людзі ходзяць, на мадэрн — не ідуць. Павінна быць зваротная сувязь паміж выканаўцамі і гледачамі, а ў мадэрне часцей за ўсё яе няма. Але я з цікавасцю стаўлюся да новага ў харэаграфіі, я не прымаю толькі гульні ў новае.

**Мо няма дастаткова святаў, фестываляў, конкурсаў?**

— Ёсць і фестывалі — напрыклад, фестываль сучаснай харэаграфіі ў Віцебску, якому сёлета спаўняецца дзесяць гадоў і дзе я з 1993 года старшыня журы. І конкурс у рамках гэтага фестывалю — конкурс на лепшы харэаграфічны твор. Гэтым ён, дарэчы, сур'ёзна адрозніваецца ад дзесятка балетных конкурсаў, што цяпер растуць як грыбы. На нашым конкурсе ацэньваецца ўсё — майстэрства балетмайстра, выканаўцаў, нават мастакоў. І яшчэ адно, што адрознівае віцебскі конкурс — у ім можа прыняць удзел кожны, хто прэтэндуе на новае слова ў сучаснай харэаграфіі.

**Магчыма, не хапае меркаванняў спецыялістаў, прафесійнай крытыкі?**

— Для такой невялічкай краіны, як Беларусь, у нас дастаткова людзей, якія сур'ёзна цікавяцца балетам, імкнуцца быць прафесіяналамі. Падаваць, генерыраваць ідэі — гэта важна. Крытыка павінна быць зацікаўлена ў развіцці мастацтва. Мне цікавая крытыка стваральная, канструктыўная, цікавы высокі ўзровень ацэнак. Але крытыка заўсёды другасная перад творцам.

Мастацтва — адзін з фактараў міжнароднага прэстыжу краіны. І крытыка павінна гэты прэстыж умацоўваць. Мець такі тэатр, як наш сёння, калі вакол усё развальваецца, — гэта зноў-такі вельмі прэстыжна.

**Спытаюся тады, а ці не адзінока Майстру? Можа не хапае кола прафесійных зносінаў, якой-небудзь асацыяцыі харэографаў, накшталт творчага саюза?**

— У Беларусі сёння няшмат прафесійных харэографаў. Магчыма, сітуацыю выправіць кафедра харэаграфіі Акадэміі музыкі. Праца там — для мяне чарговая спроба сіл, я не надта адчуваю сябе выкладчыкам. Але ўжо вырысоўваецца кола маладых балетмайстраў, напрыканцы мінулага навучальнага года мы ладзілі паказ іхніх прац, здаецца, імпрэза была паспяховай. Час пакажа, што з гэтага будзе.

**Можа, нарэшце, свету Елізар'ева нестае хваляў абнаўлення?**

— Чаму да гэтай пары захавалася ў рэпертуары большасць з таго, што мной пастаўлена? Не ведаю, мусіць, гледачам гэта яшчэ цікава. Я казаў неяк ужо, што спектаклі падобныя да дзяцей — нараджаюцца, сталеюць, дасягаюць кульмінацыі ў сваім развіцці. Часам паміраюць — у кожнага свой лёс. Не надта шчаслівы лёс быў у "Вясны свяшчэннай" Ігара Стравінскага. Спектакль быў пастаўлены амаль адзінаццаць гадоў таму і сышоў са сцэны па вельмі празаічнай прычыне — не стала каму дырыжыраваць, складаную музыку наш аркестр мог выканаць толькі пад кіраўніцтвам Генадзя Праватарава, а ён у той час звольніўся. Зараз мы аднаўляем гэты твор, дакладней, ставім нанова, хаця тое, што было знойдзена, я імкнуся захаваць. Першае выкананне прымеркавана да майго творчага вечара 31 кастрычніка.

Дарэчы, уражвае стаўленне беларусаў да сваіх геніяў: Стравінскі нарадзіўся тут, у Мінскай губерні, у вёсцы Новы Двор, але беларусы чамусьці не лічаць яго сваім. Я ўсё ж хачу становішча паправіць, у планах — яшчэ не адзін балет на музыку Стравінскага.

*Здаецца, у балетным свеце Елізар'ева ўсяго хапае. Але наперадзе — другая палова яго творчага веку. Упэўнены, Майстар знойдзе, як зрабіць свой свет яшчэ больш дасканалым, цікавым, разнастайным і яркім.*








*Гэта не жарт, не брак, не мантаж. Адбітак зроблены з кінастужкі, якую атрымаў рэжысёр Віктар Шавялевіч падчас здымак фільма аб Валянціне Елізар'еве. Кажуць, аура, фрагмент якой "схапіла" звышадчувальная імпартная стужка, існуе вакол кожнага чалавека. Можа, так. А можа, і не...*

## "ТЭЛЕГРАМЫ Ў НУМАР": першыя віншаванні

*"Дамагчыся здзяйснення мары — у гэтым найвялікшы сэнс жыцця чалавека".*

***(А.Якаўлеў, авіяканструктар)***

Чалавек, паўвекавы юбілей якога мы святкуем 31 кастрычніка, усё жыццё прысвяціў здзяйсненню сваёй мары — ствараць цудоўныя балеты. Мы ўдзячны яму за тое, што і нашыя мары здзяйсняліся, калі па ягонай, Майстра, волі на сцэне ствараліся цуды — цуды мастацтва.

Чаго яшчэ пажадаць Валянціну Мікалаевічу, як не бязмежнай фантазіі, невычарпальных крыніц натхнення, якія адорваюць нас цудоўным падманам, імя якому — тэатр!

**Аддданы глядач**

...Я вельмі ўдзячная Валянціну Мікалаевічу перш-наперш за тое, што ён дазволіў мне станцаваць вельмі разнастайны рэпертуар. Ён шмат ставіў сам, запрашаў ленінградцаў — і сабраў агромністы рэпертуар, аб якім салісты з іншых тэатраў толькі мараць.

Думаю, ён не адчувае сябе "пажылым" чалавекам, і хачу яму пажадаць, каб не заядаў быт — хатні і тэатральны, каб заставаўся час для творчасці. Жадаю натхнення, духоўных уражанняў — таго, што неабходна мастаку.

**Таццяна ЯРШОВА,**
**народная артыстка Беларусі,**
**салістка балета**
**з 1976 па 1995 год**

Валянцін Мікалаевіч Елізар'еў трохі падобны да свайго тэатра, Мінскага Вялікага, які горда ўзвышаецца над сталіцай. Ён — з'ява ў беларускім культурным жыцці, ён моцна ўкараніўся на мінскай зямлі і ўвенчаны найбольшым поспехам, ён стаў аўтарытэтным паслом Беларусі за яе межамі, у тым ліку ў Францыі, дзе штогод паспяхова гастралюе са сваёй трупай.

Блізкі па духу Юрыю Грыгаровічу і Ралану Пеці, Валянцін Мікалаевіч аб'ядноўвае ў сваім харэаграфічным мастацтве мужную моц велічных фрэсак (уражальныя "Спартак" ці "Рагнеда") са страснымі пачуццямі (хвалюючая "Кармэн"), не забываючыся пры гэтым на ўражальную лёгкасць гумару (надзвычайнае "Стварэнне свету"), эпічны лірызм (грандыёзны спектакль "Карміна Бурана") і ўзноўлены класіцызм (такі ўдалы "Шчаўкунчык").

У цяжкіх матэрыяльных умовах, якія агульнавядомыя, у яго дастае кіпучай энергіі, каб аб'ехаць свет са сваімі танцоўшчыкамі, і адкрытасці, каб прымаць у Мінску іншыя сучасныя харэаграфічныя эстэтыкі, сярод якіх і французскія: сёлета гэта была Карын Сапарта, у наступным годзе — Ліёнскі тэатр Оперы і Балета, а потым і трупа Анжэліна Прэльжокажа...

Валянцін Мікалаевіч, з Днём нараджэння! Усміхайцеся Вашай усмешкай, якая неадрыўная ад Вашай энергіі, тварыце надалей для Вашых танцоўшчыкаў, надалей іх любіце! Будзем разам працягваць наша супрацоўніцтва яшчэ не менш, чым 50 гадоў!

**Франсуа ЛАРАН,**
**Радца па культуры**
**Амбасады Францыі**
**ў Беларусі**

## Ружы

*21 кастрычніка Нацыянальная опера будзе вiншаваць з пяцідзесяцігадовым юбілеем свайго Галоўнага дырыжора, Аляксандра Анісімава. Творчы лёс гэтага чалавека ўражвае багаццем падзей і хутчэй наводзіць на думку аб паважным стогадовым старцы, а ніяк не аб энергічным, зграбным, малажавым — нават маладым! — мужчыне. Вось толькі некаторыя з фактаў:*

*...скончыў Ленінградскую (1970) і Маскоўскую (1975) кансерваторыі... З 1975 года працаваў дырыжорам Ленінградскага Акадэмічнага тэатра оперы і балета. З 1980 — галоўны дырыжор Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь... У рэпертуары — звыш 50 найменняў оперных і балетных спектакляў, больш за 20 праграм сімфанічнай музыкі... Першы ў Савецкім Саюзе ажыццявіў пастаноўкі опер Пракоф'ева "Вогненны анёл" і "Маддалена"... Сталы ўдзельнік фестываляў "Ірына Архіпава прадстаўляе" і "Запрашае Марыя Біешу"... Рэгулярна дырыжыруе фінальныя туры конкурсаў імя Глінкі (вакал) і імя Чайкоўскага (скрыпка)... Працаваў у Італіі, Германіі, Францыі, Іспаніі, Галандыі, Чэхіі, Польшчы, Аргенціне, ЗША, Тайландзе, Ганконгу... У 1993 годзе аркестр акадэміі "Санта Чэлія" ўручыў яму дырыжорскую палачку Л.Бернстайна ў адзнаку таленту... У 1995 дырыжыраваў гала-канцэртам Мансерат Кабалье ў Маскве на яе запрашэнні... Сталы госцьдырыжор Марыінскага тэатра і галоўны госць-дырыжор Нацыянальнай філармоніі Ірландыі... У сезоне 95/96 запрошаны музычным кіраўніком пастановак опер "Яўгенiй Анегін" у Апера Басціль (Парыж) і "Князь Ігар" у Сан-Францыска... Па кантракце працуе над запісамі на кампакт-дыскі ўсіх сімфанічных твораў Рахманінава, Скрабіна, Глазунова... Заслужаны дзеяч мастацтваў Расіі, лаўрэат Дзяржпрэміі Беларусі...*

# Аляксандр Анісімаў: палова шляху

**— Аляксандр Міхайлавіч, першае пытанне, якое прыходзіць на думку, калі чытаеш доўгі пералік вашых прац, дасягненняў, праектаў — гэта: адкуль вы бераце энергію?**

— Энергіі хапае таму, што займаюся любімай справай. Шчыра кажучы, я атрымліваю вялікае задавальненне ад зносін з музыкай, ад кантактаў з музыкантамі, ад таго, што нечага дамагаюся ў працы. Гэта і дае энергетычны імпульс. У дырыжорскай прафесіі ёсць вельмі цікавы момант. Аб'ектыўна гэта такая спецыяльнасць, якая спалучае ў сабе масу палярных і рэдкіх якасцяў. Дырыжор павінен быць дастаткова дужым, вынослівым чалавекам — фізічна. Я б нават казаў — трэніраваным. Адначасова ён — інтэлектуал з добрай адукацыяй і хуткай рэакцыяй мозга. Яшчэ — эмацыйны, "выбуховы" лідэр. Павінен часам за долі секунды прымаць адказныя рашэнні ў неадэкватнай сітуацыі, амаль як пілот ці хірург. І, як паказвае мая практыка, дырыжор павінен валодаць нават парапсіхалагічнымі здольнасцямі — такімі, як інтуіцыя, прадказанне. Ад яго павінны ісці хвалі ўздзеяння не толькі на музыкантаў, але і на слухачоў. Многія дырыжоры, якія не вылучаліся тэхнікай, дасягалі поспеху менавіта дзякуючы гэтым "ірацыянальным" якасцям. Часам дастаткова аднаго з"яўлення дырыжора, каб выклікаць эмацыянальны ўздым у слухачоў і калег...

І калі ўсе гэтыя якасці праяўляюцца ў суме ў час працы за дырыжорскім пультам, то раптам аказваецца, што і чалавечы арганізм пачынае працаваць у больш эфектыўным рэжыме, набліжаючыся да таго ўзроўню, для якога прызначаны. Вядома, што большасць людзей выкарыстоўваюць свае здольнасці ледзьве на 1/8. А ў дырыжора ёсць магчымасць наблізіцца да "оптымума". І ў выніку гэты рэжым працы адбіваецца нават на працягласці жыцця! Заўважце, дырыжоры — гэта людзі, што жывуць больш за 80 гадоў. І Герберт фон Караян, і Яўген Мравінскі, і Артура Тасканіні, і Георг Шолці, і Ота Клемперэр, і Бруна Вальтэр — яны ўсе даўгавечнікі. І я хацеў бы доўга працаваць, выхаваць дзецей і ўнукаў, дачакацца іх поспехаў.

**— Ці лёгка вы сустрэліся са сваім прызначэннем?**

— Мяркую, так, хутка і лёгка. Я вельмі любіў спяваць, пеў у хоры





і мне заўсёды падабалася праца кіраўніка хору. Між тым сямейнай традыцыі, звязанай з музыкай, не было. Бацька быў філосаф, выкладчык, маці — эканаміст. Праўда, дзядуля быў музыка-самавук, граў на гармоніку і мяне вучыў — у самым дзяцінстве. Наогул па лініі бацькі ў мяне — "зямля", сяляне, людзі паветра, прасторы. А па лініі маці — "неба" і "зоркі", яна са старажытнага шляхецкага роду. У мне гэта неяк дзіўна спалучаецца. Я люблю калінекалі выбрацца на прыроду, мяне не бянтэжаць пахі вёскі, мне цікавыя бабулькі ў зморшчках, я люблю глядзець, як растуць дрэвы. З другога боку, мне ўтульна на вуліцах Парыжа, на праспектах Пецярбурга, сярод палацаў Лондана. І ў музыцы — гэтая ж усяяднасць: мне падабаецца "чарназёмнасць" і "тлустасць", моц Барадзіна і Рахманінава, а адначасова з задавальненнем і многа працую з музыкай рэнесанса, старажытнай, элітарнай — Стравінскага, Брытэна. На маю думку, гэта правільна, дырыжор, які працуе ў тэатры, павінен быць аднолькава адданы кожнаму кампазітару, з музыкай якога працуе. Неяк Мсціслаў Растраповіч прызнаўся мне, што адчувае тое ж самае, што аддаецца кожнаму твору так, быццам гэта адзінае, што ёсць на Зямлі: "Я павінен іх любіць — і я іх люблю!" Гэтак у дырыжоры праяўляецца артыстызм, здольнасць да пераўтварэння. Зразумела, ёсць "моманты" любімыя, пастаянныя, але яны таксама мяняюцца з цягам часу. Урэшце, публіка прыходзіць не слухаць, як я стаўлюся да таго ці іншага твора ці кампазітара, яна жадае слухаць гэтую музыку ў найлепшым выкананні!

**— Вы працуеце з некалькімі, не падобнымі адзін да аднаго аркестрамі, як вы наладжваеце адносіны з рознымі музыкантамі?**

— Нават у тэорыі працы з аркестрам гаворыцца, што дырыжор павінен шукаць падыход да розных асоб. Я працаваў і працую з філарманічнымі, сімфанічнымі аркестрамі, з аркестрам радыё — і звярнуў увагу, што амаль натуральна я не стаўлю мэтай прыстасавацца да іх, а стараюся быць самім сабой, і гэта дае найлепшы вынік. Ёсць два тыпы дырыжораў: дыктатар і ... другі тып. Які? Вось тлумачэнне: "Музыканты павінны самі браць удзел у творчасці, а не ісці бяздумна ўслед за дырыжорам, падпарадкоўваючыся ягонай волі", — гэта сказаў Малер. А вось афарызм Раждзественскага:

## Біс



Чамусьці менавіта прэм'ера "Сялянскага гонару" на пачатку лета 1996 года прымусіла мяне вельмі востра адчуць, чым абавязаны наш тэатр Эдуарду Пелагейчанку. Справа не толькі ў тым, што Эдуард Іванавіч здзейсніў у тыя дні сапраўдны акцёрскі подзвіг — адзін прайшоў усю "фінішную прамую" і праспяваў тры прэм'ерныя спектаклі (быў нават дзень, калі ён згадзіўся выканаць найбольшую ў оперы і найскладанейшую ў вакальных і псіхалагічных адносінах партыю Турыду ў ранішнім і вячэрнім прагонах). Галоўнае, як ён спяваў і якім чалавечым зместам напоўніў гэты вобраз. Пад гэтыя самыя воклічы "Брава, Турыду!" (на той момант я шкадавала, што не маю ні голасу, ні звычкі выяўляць такім чынам сваё захапленне) у маёй свядомасці сфакусавалася ўсё, што зрабіў на нашай сцэне гэты саліст. І на працягу ўсяго наступнага сезона я, здаецца, не прапусціла ніводнага ягонага спектакля, слухала запісы на радыё, разглядвала фотаздымкі ў нашым тэатральным музеі, "на ўсякі выпадак" брала інтэрв'ю пра Пелагейчанку ў ягоных калег. І пры гэтым зусім не думала пра нейкія юбілейныя даты. А аказалася, што мой герой падыходзіў да вельмі адказнага творчага рубяжа — 25-годдзя сцэнічнай дзейнасці! Яна пачалася ў 1972 годзе ў адным з лепшых расійскіх оперных тэатраў — Пермскім — пасля таго, як Э.Пелагейчанка, былы інжынер-ліцейшчык, закончыў Новасібірскую кансерваторыю.

Пермскаму тэатру Эдуард Іванавіч аддаў якраз палову свайго творчага веку — дванаццаць з паловай гадоў і прыехаў да нас бліскучым майстрам вакалу са свежым, паўнагучным, нястомным голасам звышпоўнага дыяпазону (апрача абавязковага верхняга "до" спявак меў і такую празмерную раскошу, як "рэ" другой актавы), вялікім рэпертуарам і ... ганаровым званнем народнага артыста РСФСР. У яго актыве былі шматлікія выступленні ў спектаклях маскоўскага Вялікага тэатра. Тым не менш, як я толькі што выпадкова даведалася, тагачасны галоўны дырыжор Генадзь Панцеляймонавіч Праватораў прыдзірліва праэкзаменаваў спевака, прымусіўшы яго выканаць запар мноства самых складаных тэнаровых арый.

Эдуард Пелагейчанка быў прыняты ў нашу оперную трупу ў сакавіку 1985, акурат у мой першы сезон у тэатры, таму не з чужых слоў магу сказаць, як імкліва і натуральна ён уваходзіў у рэпертуар. Князь у "Русалцы", Іван Лыкаў, Фауст, Альфрэд, Дон Карлас (пра гэтую работу Эдуарда Іванавіча такі тонкі знаўца оперы, як Яраслаў Антонавіч Вашчак, адазваўся быццам бы сціпла: "Гэта быў вельмі інтэлігентны ўвод!", — але ж трэба было ведаць, як многа ўкладаў наш маэстра ў гэтае вызначэнне!)... А першай прэм'ерай на нашай сцэне стаў "Севільскі цырульнік" (чамусьці асабліва запомніўся Э.Пелагейчанка — Альмавіва ў другім пераапрананні, як Дон Алонса, верны вучань мацёрага інтрыгана Дона Базіліо). Потым ішоў даўно знаёмы Эдуарду Іванавічу "Яўгеній Анегін" (у вобразе Ленскага ён выходзіў на розных сцэнах) і такі надзвычай рэдкі госць на афішах савецкіх тэатраў, як "Кавалер руж" Рыхарда Штрауса. Нязвычныя складанасці гэтай чароўнай па музыцы оперы адштурхнулі многіх нашых салістаў, але ж толькі не Эдуарда Іванавіча. Ён іграючы выконваў знарок перагружаную ўсімі магчымымі вакальнымі цяжкасцямі адзіную арыю пер-



санажа, які так і называецца — Тэнар. Мала таго, ён згадзіўся асвоіць — проста таму, што гэта цікава, — велічэзную па аб'ёме і прыцягальную паводле акцёрскіх задач галоўную партыю Актавіяна, разлічаную Штраусам на мецца-сапрана, і паспяхова выконваў яе ў чаргу з Нагімой Галеевай. Аднак ці варта пералічваць усе пелагейчанкавыя партыі — іх безліч, і да чыста лірычных даўно дадаліся партыі "моцнага" тэнара, уключаючы такія драматычныя, як Герман ці Радамес. Спявак даўно даказаў, што яму падуладна ўсё. Адзінае, што парой засмучала, дык гэта нейкая "прахалоднасць", няпоўная раўнавага паміж вакальным і акцёрскім бокам выканання. Здавалася, Эдуард Пелагейчанка, падобна аднаму з найвялікшых тэнараў нашага стагоддзя Мікалаю Гедда, мог бы сказаць пра сябе: "Я спявак, а не акцёр". Надзвычай драматычнае выкананне партыі Хазэ ў "Кармэн" прымусіла пераглядзець гэты стэрэатып.

Я магла б яшчэ шмат гаварыць пра свайго героя, але ці не лепш закончыць гэты матэрыял трыма бліц-інтэрв'ю? Мой першы суразмоўнік — Сяргей Альбертавіч КАРТЭС.

**Алена САЛАМАХА:** Як бы вы вызначылі самую галоўную якасць Пелагейчанкі?

**Сяргей КАРТЭС:** Памятаю, як неўзабаве пасля пераезду Эдуарда Іванавіча ў Мінск мне патэлефанавала канцэртмайстар Лора Максімава і сказала: "Сяргей Альбертавіч, у нас з'явіўся тэнар-музыкант!" Дакладныя словы! Тэнар, які з бляскам удзельнічае ў оперных спектаклях, ды яшчэ і музыкант — гэта неацэнная вартасць. Баюся пакрыўдзіць тэнараў і ўвогуле вакалістаў, але ж для опернага спевака гэта вялікая ўхвала. І так яно і аказалася. Які б твор ні далі вывучыць Эдуарду Іванавічу, ён рыхтуе яго хутка, пранікнёна і выконвае вельмі дакладна. Мне як кампазітару няраз давялося пераконвацца ў гэтым. І канчатковым доказам стаў для мяне ягоны ўдзел у маёй апошняй оперы — "Візіт дамы". Цікава, што ў кожным спектаклі ён працягвае шукаць нешта новае — не ў вонкавым малюнку, а ў інтанацыйнай падачы







“У ідэале аркестр павінен быць бліскучым суразмоўцай дырыжора”. Вось і я хачу, каб людзі, што складаюць аркестр, заявілі аб сабе як аб таленавітых музыкантах. І яшчэ: маё крэда — радасць творчасці, радасць пераадольвання, радасць дасягнення мэты. Часам я кажу музыкантам: “Так, у нас маленькая зарплата, мы жывем у экалагічна неспрыяльным асяроддзі, але мы — шчаслівыя людзі, бо мы можам дазволіць сабе ад працы атрымліваць задавальненне і нават паглыбіцца ў транс! Мы — эліта мастацкага свету краіны і павінны адпавядаць, нават знешне, нягледзячы ні на што”. Музыкант, урэшце, павінен не працаваць, а — служыць.

**— Музычныя крытыкі ў адзін голас адзначаюць такую вашу рысу, як эмацыянальнасць. Ці лічыце вы яе неабходнай умовай добрай дырыжорскай працы сёння?**

— У нас, як і ў кожнай сур’ёзнай працы, не абысціся без халоднага разліку. Але эмацыянальнасць заўсёды падкупае. Наша праца — не надта “на віду”, біятокі дырыжора павінны быць асабліва моцнымі, каб дасягнуць слухачоў, “адбіўшыся” ад музыкантаў.

Цяпер усё часцей заўважальныя не толькі творчыя рысы, але і чалавечыя. За мяжой фактар “звычайнага чалавека”, чалавечая прывабнасць вельмі важныя. Дарэчы, мне ў гэтым сэнсе пашчасціла, нават, калі я не валодаў мовай (ангельскай, зразумела), у замежжы людзі імкнуліся да кантактаў, хай бы нават праз перакладчыка.

**— Вам давялося не раз працаваць з мэтрамі, людзьмі сусветнай славы, з Растраповічам, Мансэрат Кабалье. Якое засталося ўражанне?**

— Гэта цікавыя, спакойныя, добразычлівыя і вельмі ясныя ў сваіх намерах людзі. Былі і іншыя ўражанні: калі я працаваў са Свірыдавым, мяне папярэдзілі, што ён — цяжкая асоба, дэспат, вельмі патрабавальны да выканання сваёй музыкі. Але падчас рэпетыцыі ён маўчаў, а пасля да мяне падышла ягоная жонка і перадала яго словы: “Георгій Васільевіч рэдка калі бывае задаволены перад канцэртам, але тут ён упэўнены ў вашым поспеху...” Адным словам, славутыя людзі — гэта не манументы самім сабе, ім знаёмыя і такія паняцці, як абавязак, адказнасць. Мне запомнілася выказванне Тэрнера, уладальніка карпарацыі Сі-Эн-Эн, які шмат займаецца дабрачыннасцю. Ён казаў: “Я стаў вельмі багатым чалавекам дзякуючы ўдачы. Я шмат працаваў, але на мяне яшчэ многія працавалі, каму пашчасціла менш”. Мне таксама знаёмае гэта пачуццё хрысціянскага абавязку. Я ведаю, што цяпер усім цяжка ў краіне і не лічу магчымым патрабаваць для сябе асаблівых умоў, выключных адносінаў. Мне здаецца, гэта дзесьці залічваецца — але гэта не разлік, а пачуццё ўнутранай справядлівасці. Я ведаю — трэба памятаць, што мы прыходзім і сыходзім у імя вышэйшага сэнсу.

**— Ці даводзіцца вам працаваць над іміджам?**

— Так, даводзіцца, і часцей тут, дома, бо за мяжой мне ў гэтым дапамагаюць прафесіяналы. Там наогул без гэтага нельга, музычны бізнес там добра распрацаваны.

**— Як вы лічыце, пяцьдзесят гадоў для дырыжора — гэта ўзрост росту, росквіту, сталасці?**

— Цяпер усе прафесіі робяцца маладзейшыя, раней дырыжоры былі больш сталыя па ўзросце. Я ж падлічыў, што маю ўжо 35 гадоў дырыжорскага стажу. У свой час я прыехаў у Беларусь самым маладым у Саюзе Галоўным дырыжорам.

50 гадоў — гэта палова шляху ў творчасці, так мне цяпер здаецца. Сёння я маю расклад працы аж да 2004 года. Гэта заарганізаванасць, дарэчы, з аднаго боку, падсцёгвае, дысцыплінуе, а з другога — ёсць небяспека зрабіцца аўтаматам, страціць здольнасць радавацца прыгажосці навакольнага свету...

**— Апошнім часам заяўляе аб сабе Аляксандр Анісімаў-малодшы, дванаццацігадовы піяніст. Вы шмат дапамагаеце сыну, ці не так?**

— Я наогул за карпаратыўнасць у мастацтве. Ісці іншым шляхам, калі побач ёсць той, хто дапаможа і падкажа, — было б неразумна, зразумела, калі ў дзіцяці ёсць неабходныя здольнасці. Спадзяюся, мы не памыліліся, ды і факты сведчаць: Саша паспяхова выступаў у Германіі і Францыі. Мяркую далучыць яго да праграмы фестывалю ў Салатурне, Швейцарыя, куды запрошаны наш тэатр у наступным годзе. Гэта фестываль, што прысвячаецца аднаму тэатру, мы плануем паказаць там оперы “Князь Ігар” і “Барыс Гадуноў” (яна зараз рыхтуецца да пастаноўкі), “Травіяту”, “Чыо-Чыо-Сан”, “Аіду”. Будзе сімфанічны канцэрт — і сольны канцэрт Сашы Анісімава. У Мінску гэтую праграму мяркуем паказаць у сакавіку.

**— Дзякуй за размову. Віншую вас з юбілеем і шчыра жадаю бліскучага ажыццяўлення ўсіх вашых планаў — творчых і жыццёвых!**



ролі. І гэта, зразумела, не толькі ў маёй оперы, проста я, мабыць, вастрэй адчуваю ў сваёй...

Другім суразмоўнікам стаў дырыжор Мікалай Сяргеевіч КАЛЯДКА.

**А.С.:** Здаецца, сярод усіх дырыжораў апошнім часам вы асабліва многа працуеце з Эдуардам Іванавічам, і галоўныя яго ўдачы якраз звязаны з вашымі спектаклямі. Гэта і Хазэ, і Турыду. Рычард у “Балі-маскарадзе” таксама ў ліку самых лепшых работ спевака. Што думаеце пра гэтага саліста, як вам працуецца з ім?

**Мікалай КАЛЯДКА:** Мяне асабіста прыцягвае ў гэтым спеваку спалучэнне выдатных галасавых дадзеных і высокага інтэлекту, таму работа з ім і ўдзел яго ў маіх спектаклях дапамагае мне дабівацца, на мой погляд, нядрэнных вынікаў, і ўсё маё творчае супрацоўніцтва з ім — вось я ўзгадваю оперы “Яўгеній Анегін”, “Баль-маскарад”, “Кармэн”, “Сялянскі гонар”, “Дон Карлас” — было для мяне вялікай школай, таму што гэта спявак вельмі высокага класа, разумны і мужны чалавек, і не толькі музыканцкія, але і чыста чалавечыя дачыненні з ім прыемны для мяне і даюць надзвычай многа.

**А.С.:** Сярод опер; над якімі вы працавалі з гэтым цудоўным салістам, ці можаце вы вылучыць такую, дзе Эдуард Іванавіч як спявак-акцёр раскрыўся з асаблівай паўнатой?

**М.К.:** На мяне нязменна глыбокае ўражанне робіць заўсёды заключная сцэна з “Кармэн”, я атрымліваю вялікі творчы імпульс са сцэны і стараюся адпавядаць узроўню Пелагейчанкі. Але я думаю, што работа, якая, спадзяюся, чакае нас у гэтым сезоне — “Паяцы” Леанкавала, таксама дазволіць Эдуарду Іванавічу цалкам рэалізаваць свой творчы патэнцыял.



І, нарэшце, некалькі слоў пра Эдуарда Пелагейчанку ад адной з галоўных яго партнёрак па севернай сцэне ў філарманічнай зале Наталлі РУДНЕВАЙ:

— Яго прыход у тэатр проста-такі ашаламіў мяне з пункта гледжання вакальнага майстэрства. Не часта сустрэнеш спевака, які б так валодаў сваім голасам, выконваючы не толькі лірычны, але і драматычны рэпертуар, пры тым, што па сваёй прыродзе гэта лірычны тэнар. Я б нават сказала, што некаторыя драматычныя партыі атрымліваюцца ў яго лепш за лірычныя. І з цягам часу яны гучаць усё больш моцна. Гэта ж парадокс — узрост павялічваецца, а тэхніка не церпіць аніякіх страт. Гэта, зразумела, залежыць ад вакальнай школы. Эдуард Іванавіч надзвычай выгодны і надзейны партнёр для мяне, у “Кармэн” увогуле самы лепшы. Так многа залежыць ад партнёра, ад таго, як менавіта ён спявае! Калі я працую з Эдуардам Іванавічам, у мяне няма ніякай няўпэўненасці, што нешта вакальна можа не атрымацца. Гэта так мяне супакойвае, так вакальна настройвае і, акрамя таго, дазваляе засяродзіцца на драматычным дзеянні! І калі ўзнікае ідэя ўнесці нейкі новы штрых у даўно зробленую партыю, я заўсёды магу разлічваць на ўзаемаразуменне з маім партнёрам. Так, мне працаваць з Пелагейчанкам зручна. Вельмі. Гэта датычыць і “Сялянскага гонару” (мы пачалі разам выступаць у гэтай оперы задоўга да таго, як яе паставілі на нашай сцэне), і “Кармэн”, і “Аіды”, і “Балю-маскараду”...

**Алена САЛАМАХА**





*Ад рэдакцыі: 18 кастрычніка ў Тэатры оперы і балета адбудзецца творчы вечар Эдуарда Пелагейчанкі з нагоды 25-годдзя яго сцэнічнай дзейнасці. Майстар будзе спяваць тое, што сам выбярэ са свайго неабсяжнага рэпертуару, у ансамблі з самымі любімымі партнёрамі, а за пультам будуць змяняць адзін аднаго ўсе нашы дырыжоры. Як нам стала вядома, не толькі опера, але і іншыя мінскія тэатры, творчыя саюзы, Акадэмія музыкі абдумваюць форму сваіх віншаванняў выдатнага артыста. Так што вас чакае цікавы спектакль, рэжысёрам якога прызначана Сусанна Цырук.*

# ЭТУАЛЬ




## Грымёжка

*...Па сцёртых, шмат пацярпелых дошках вялікай сцэны Вялікага тэатра дзелавіта хадзілі рабочыя, разбіраючы дэкарацыі. Скончаны бал-балет, артысты разышліся па грымёжках, толькі ля брудна-чырвонай заслоны прытулілася валошкавай пачкай да кансолі адна балерына. Побач мітусіліся з фотакамерай дзяўчынкі, напэўна, паклонніцы, спрабуючы зрабіць здымак на памяць. Балерына цярпліва чакала, пакуль тыя ўправяцца з тэхнікай, а на яе твары адбівалася сапраўдная асалода: яна зняла, нарэшце, балетныя туфлі, трымала іх у руках і стаяла на шаршавых дошках проста басанож. Сцёртыя пальчыкі амаль усе былі заклееены пластырам, разгарачаныя вытачаныя ступні пераміналіся па падлозе, быццам іх уладальніца не была ўпэўнена, што яны і надалей ёй належаць.*
*І здавалася, ніякая сіла не прымусіць яе зрабіць тыя некалькі дзесяткаў крокаў да "грымёжкі"... Балерына была — Каця Фадзеева, а балет, што скончыўся — доўгачаканая прэм'ера "Раймонды" ў пастаноўцы славутага Юрыя Грыгаровіча. І так склаліся абставіны, што Каця была адзінай выканальніцай галоўнай партыі і на ўсіх апошніх пастановачных рэпетыцыях, і на "прагоне" — генеральнай рэпетыцыі — і цяпер, на прэм'еры. Зразумела, гэтая размова адбылася не ў той "момант ісціны"...*

**— Каця, ведаю, што вы скончылі Маскоўскую харэаграфічную вучэльню. Як вы трапілі ў Мінск?**

— У Мінск я прыехала сама, па ўласным выбары. Мы з бабуляй паглядзелі, дзе ёсць добры тэатр недалёка ад Масквы, і абралі Мінскі. У той час застацца ў Маскве без прапіскі не было ніякай магчымасці. Нас прыехала трое з Маскоўскага вучылішча, Валянцін Мікалаевіч асабіста нас паглядзеў. Я выконвала, як памятаю, пару класічных варыяцый — сучаснай харэаграфіі мы ў той час увогуле не танцавалі.

Сама я сібірачка, з Цюмені, там і да гэтай пары жывуць мае бацькі, але вялікую ролю ў маім лёсе адыграла бабуля, яна мяне забрала ў Маскву яшчэ з другога класа. Яна ж прывяла ў балет — проста па аб'яве ў газеце, я сама мала што разумела тады. Конкурс быў вельмі вялікі, як звычайна ў Маскоўскае вучылішча — каля 60 чалавек на месца, але ж мяне ўзялі. Нельга казаць, каб я была "выдатніцай" у вучылішчы, "адстаючай" таксама не была — недзе пасярэдзіне, "харашысткай". Дарэчы, цікава, што многія з "харашыстаў" майго курса вызначыліся ўжо пазней, працуючы ў розных калектывах: Наталля Лігаўская ў маскоўскім тэатры Станіслаўскага і Неміровіча-Данчанкі, Аляксей Ратманскі — у Кіеўскай нацыянальнай оперы, Ігар Малахаў — у Гардзееўскім калектыве.

**— Якое засталося ўражанне ад вучылішча?**

— Маскоўскае, разам з Ленінградскім і Пермскім — гэта найбольш моцныя школы, нават па сусветных мерках. Там вялікі конкурс, жорсткі адбор, строгае навучанне. Педагогі, рэпетытары трымалі нас, што называецца, у жорсткіх рамках. З іншага боку, мы не проста вучыліся ў іх харэаграфіі — вучыліся, як яны ходзяць, як размаўляюць, глядзелі як на куміраў, імкнуліся быць ва ўсім да іх падобнымі. Свайго педагога Галіну Канстанцінаўну Кузняцову заўсёды ўспамінаю толькі з добрымі пачуццямі, шкадую, што страціла з ёй сувязь — апошні раз бачыліся, калі я ездзіла на конкурс у Маскву.

**— У конкурсах вы пачалі ўдзельнічаць, калі склалі больш-менш сталую пару з Веніямінам Захаравым, вашым мужам?**

— Веня больш удала выступаў, з нашых сумесных конкурсных поспехаў памятаю пермскі "Арабеск" 92-га года, дзе ён узяў трэцюю прэмію, а я атрымала Прыз глядацкіх сімпатый. Конкурс — гэта іспыт,



выпрабаванне, прызвычаенне да адказнасці, этап у развіцці. Трэба набрацца смеласці заявіць аб сабе, зрабіць нешта такое, каб уразіла. На пачатковым этапе гэта патрэбна.

Што тычыцца пары, то ўвогуле я не лічу абавязковым для балерыны танцаваць у пары. Але калі пара ў тэатры нараджаецца — "цвёрдая пара" — яе трэба берагчы, пеленгаваць, бо гэта рэдкасць, гэта цяжка — стварыць пару. У нас з Веняй — добрая пара. На сцэне ён мне заўсёды дапамагае, гэта абавязкова — максімальна дапамагаць адно аднаму.

**— Вы — побач і на сцэне, і ў жыцці, напэўна, гэта цяжка? І хто з вас лідэр — у тэатры і ў хаце?**

— Так, бываюць моманты, калі цяжка трываць увесь час адно аднаго. Бывае, што разыходзімся па розных пакоях, каб памаўчаць. А лідэрства — залежыць, чаго датычыцца справа, часцей, зразумела, Веня. Я вельмі люблю быць гаспадыняй, люблю гатаваць. Калі б быў час, я б выпякала, ладзіла сібірскія пельмені. Люблю прыбірацца, чысціню люблю, люблю рабіць сюрпрызы, парадаваць неяк мужа. Ён — няпросты чалавек, шмат патрабуе ад сябе і яшчэ больш — ад іншых, у адпаведнасці са знакам, ён — Вадалей, я — Панна.

**— Калі казаць пра жыцейскі бок — памятаю, як хутка вы з'явіліся на сцэне пасля нараджэння сына. Балетным сем'ям, напэўна, не абысціся без дысцыпліны нават у такой справе?**

— Так, гэта быў разлік, свядомае рашэнне. У той час было няшмат паездак, мая адсутнасць не шкодзіла трупе. Здаецца, нарадзіла вельмі ўдала, "у час". Засталася ў форме, хутка пачала працаваць — менш, чым праз пяць месяцаў — і сын ужо расце, хутка будзе чатыры гады. Думаю, гэта не апошняе дзіця ў нашай сям'і.

**— Вядома ж, аб гэтым заўчасна казаць, але ці хацелі б вы, каб сын стаў танцоўшчыкам?**

— Калі ў яго будуць неабходныя дадзеныя — чаму б не? Гэта неблагая прафесія. Але як гэтую прафесію знаходзяць — іншая справа. Я не магу ўявіць, што рабіла б, калі б не была балерынай.

**— Ці даўно вы сябе лічыце прафесіяналам?**

— Не надта даўно. Я пачала танцаваць вядучыя партыі на пятым годзе працы. Стаяла ў самых апошніх радах, станцавала ўсе магчымыя падтанцоўкі ў операх. На маю думку, гэта на карысць, гэта вопыт, гэта веданне калег. Для таго каб рабіць на сцэне нешта сур'ёзнае, патрэбны час. Калі цяпер маладых "птушанятак" ладзяць на вядучыя партыі, каб "не сапсаваць", я на гэта гляджу з жахам. Калі па сутнасці не ведаеш, што ў жыцці кепска, а што добра, — мала што можаш выказаць са сцэны. Гэта тычыцца і класічнага танца, і асабліва — сучаснай харэаграфіі. У свой час, калі я пачынала, я наогул не ведала, як яе танцаваць, шчыра кажучы, і да гэтай пары я лічу сябе класічнай танцоўшчыцай. Мне блізкі вобраз, як бы казаць, "скульптурна-геройскі" — Медора з "Карсара", Баядэрка — гэта нават зыходзячы з будовы цела, са строгіх ліній. Але сучасны танец танцаваць трэба, карысна: гэта разнявольвае, гэта неабходна для поўнага фармавання кожнага артыста. Нешта адбываецца ў душы, ты "расцеш". Валянцін Мікалаевіч кажа, што нарэшце ў маім танцы з'явілася тое, што "бярэ за сэрца". Гэтая ўхвала дарагога каштуе...

Прыкладна з год толькі я лічу сябе самастойнай балерынай. Я станцавала практычна ўсе партыі, ведаю свае моцныя і слабыя бакі. Я магу выбіраць тое, што мне падыходзіць. Прыйшла сталасць і давер да сябе. Лічу, што цяпер я ў піку формы — але на месцы стаяць нельга, трэба "шліфаваць майстэрства" далей.



**— Што вы лічыце галоўным у сваёй прафесіі? І ці ёсць у вас прафесійныя сакрэты, звычкі?**

— Ёсць такая не надта акрэсленая якасць — балерынскі апломб. Гэта не ў сэнсе "ўстойлівасць", як перакладаецца з французскай. Гэта — калі выходзіш на сцэну і "купаешся" ў глядацкай увазе. Людзі прыйшлі адпачыць, убачыць нешта прыгожае, ты павінен ім гэта даць, і лепш за ўсё, калі робіш гэта з задавальненнем.

Што да сакрэтаў — у свой час, калі я вучылася рабіць фуэтэ, я хацела таксама ўбачыць нейкі хітрык. А яго няма — трэба проста засяродзіцца, каб прайшло хваляванне, і зрабіць гэты трук. Так амаль з усімі "сакрэтамі" ў нашай справе. Асабіста для сябе я лічу карысным, асабліва перад насычаным акцёрскім спектаклем, пасядзець адной у зале і прайграць нейкія акцёрскія рэчы перад люстэркам, выбраць тое, што лепш падыходзіць мне.

Я не веру ні ў якія талісманы, у мяне няма ні "зайчанят", ні "чорцікаў", у прыкметы таксама не веру. Адзінае выключэнне: калі ў пятніцу мне кажуць "Ні пуха!", я адказваю нетрадыцыйна — проста "Дзякуй".

Удача грае не апошнюю ролю ў лёсе балерыны. І, напэўна, да яе ў дадатак патрэбна смеласць, нават — дзёрзкасць. Бывае, я думаю: недзе там, у Цюмені, жывуць мае бацькі, сёстры, жывуць не так добра, як хацелася б. І калі я з гэтага далёка трапіла на сцэну, у вельмі добры тэатр, я павінна добра танцаваць, даказаць, што магу гэта, хоць я і паходжу з нейкай там "глыбінкі".

Калі я на сцэне, я думаю не толькі аб гледачах, дзеля каторых танцую, але і аб тых, хто побач са мной на сцэне, для мяне важна меркаванне калег, тое, што яны скажуць — ці не скажуць. І я не хварэю "зорнай хваробай"...

*На сённяшні дзень яна — па-сапраўднаму адзіная прыма-балерына Нацыянальнага тэатра балета ці, па міжнароднай тэрміналогіі, на французскай мове, "этуаль". Што перакладаецца проста — "зорка".*



Аўтар матэрыялаў мегарубрыкі: Ігар КЛОКАЎ. Мастацкае афармленне: Наталля ОВАД. Вёрстка: Андрэй ВАШКЕВІЧ.

№ 40 11 — 17 кастрычніка 1997.

КАКАФОНІЯ

# УСЁ НАРМАЛЬНА, МАМА?

## Думкі зацікаўленага тэлегледача





Калі вы прылічваеце сябе да прыхільнікаў таго альбо іншага музычнага стылю, дык вы, напэўна, некалькі кансерватыўныя і заўсёды незадаволеныя стаўленнем да ўлюбёнага віду мастацтва з боку сродкаў масавай інфармацыі. Безумоўна ж, да тэлебачання, як да найбольш папулярнай у нас інфармацыйнай крыніцы і, адначасова, як да люстэрка афіцыйнага боку нашага жыцця, прэтэнзій асабліва шмат: не паказваюць тое, забываюцца на гэтае і г.д. Так было і будзе заўсёды, нават калі музычныя падзеі зробяцца асноўным аб'ектам тэлекамер. Але, аб'ектыўна агледзеўшы праграму нашага беларускага канала, можна заўважыць, што хаця і няшмат, хаця і зусім трошку, але ўсё ж такі ўвага надаецца практычна ўсім музычным стылям: эстрадзе, поп- і рокмузыцы, класіцы, фальклору, джазу. Іншая справа, як гэта пададзена. Але давайце разбярэмся памяркоўна.

У асноўным свет музыкі ў нас на тэлеэкране ахоплены цыклавымі перадачамі, дзе галоўнымі, вызначальнымі з'яўляюцца тры моманты: форма, змест, вядучыя. Што тычыцца формы, дык тут ровар пакуль не вынайдзены і практыкуецца ці то сістэма блокаў-рубрык (як у "Акаладзе"), ці то шэрагу не звязаных паміж сабою сюжэтаў ("Каралеўскае паляванне", "Музыка без межаў"), альбо гэта праграмы, аб'яднаныя адной тэмай ("Музычны салон"), ці, нарэшце, канцэртныя зборкі з тэкстамі вядучых ("Усё нармальна, мама", "Бархатны сезон"). У апошняй катэгорыі змест не адыгрывае аніякай ролі, а вось у праграмах, што асвятляюць нашае музычнае жыццё, гэта вельмі істотна. Дзеля справядлівасці трэба заўважыць, што найбольш шырока асвятляецца сфера неакадэмічнай музыкі — у "Каралеўскім паляванні" разам з іншымі падзеямі, што забаўляюць моладзь у вольны час, і ў "Акаладзе", якая зрабілася нечым накшталт "ліхтара тусовак" і запоўніла даволі вялікую інфармацыйную нішу.

Апавядальна-калейдаскопная "Музыка без межаў" разлічана на гледачоў больш высокага духоўнага ўзроўню і больш сталага ўзросту, якія выхаваныя на савецкім тэлестылі. Цалкам асобна стаіць "Музычны салон" з Элеанорай Язерскай — спроба знайсці нітку, што звязвае паміж сабою культуру мінуўшчыны і сённяшняга дня, спроба сфармаваць прытулак для "чыстага мастацтва", вярнуць да яго ўзвышанае стаўленне. Змест гэтай праграмы настолькі вечны, што ягоная артадаксальнасць ператвараецца ў арыгінальнасць сярод сутаргавай пагоні за "найноўшымі" дасягненнямі музычнага мастацтва блізкага і далёкага замежжа.

Ад часоў перабудовы і дэмакратызацыі нашага грамадства на тэлеэкранах усяго былога Саюза пачалася персаніфікацыя, і асоба вядучага ва ўсіх інфармацыйных перадачах апынулася на першым плане. Вядучыя музычных праграм Беларускага тэлебачання прагна імкнуцца да гэтага... Магчыма, Каця Дзямчук ("Каралеўскае паляванне") выклікае большую павагу менавіта тым, што менш "стараецца", што яна не залішне сур'ёзная і без прэтэнзій. А вось Анатоль Вечар ("Акалада") з прэтэнзіяй — на вобраз знаўцы тусоўкі, але кампраміс паміж "мэтрам" і "сваім хлопцам" ім пакуль што не знойдзены.

Стыль Ларысы Грыбалёвай ("Усё нармальна, мама") — як у кепскім тэатры, дзе пераігрыванне пазбаўляе дзеянне натуральнасці, — нагадвае эксцэнтрычныя высілкі тэмпераментнага Мікалая Фаменкі, квазі-секс-сімвала Расійскага тэлебачання. Але, мяркуючы па папулярнасці Ларысы ў апошні час, яе стыль мае шмат прыхільнікаў. Што ж, "які поп, такі і прыход". Нельга не ўзгадаць і пра "Карамболь" Ягора Хрусталёва, куды часта запрашаюць вядомых музыкантаў. Поспех кожнага токшоу залежыць у роўнай ступені як ад асобы — аб'екта пытанняў, так і ад асобы, якая іх ставіць. "Карамболь", бадай, самы няўдалы варыянт падобнай праграмы.

Напэўна, адзіная перадача, дзе элемент самаўлюбёнасці вядучага апраўданы, гэта — "Музычны салон" з Элеанорай Язерскай. Справа густу, але тут вытрыманы стыль ва ўсім. Аднак вобраз, створаны Элеанорай, нельга змешваць ні з кім, ён губляе сваю рафінаванасць пры кожным сутыкненні з рэальным светам. Патэнцыйны аб'ект эстэтызаваных прамоваў вядучай — не канкрэтныя людзі, а нейкая, духоўна ачышчаная прастора, яна абстрактная і не вытрымлівае матэрыялізацыі. Пазачасавы вобраз гаспадыні салона створаны для сцэны — тое, што ў жыцці можа здавацца недахопам, на сцэне ж часта робіцца акцэнтам вобраза. У дадзеным выпадку, каларытнасць вядучай дадае ідэі эксклюзіўнасці.

Час ад часу ўзнікаюць на нашых экранах цыклы з некалькіх перадач — як, скажам, праграмы, прысвечаныя Дзяржаўнаму канцэртнаму аркестру Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга. Цалкам натуральна, што наспела ідэя такіх праграм, бо аркестр — гэта цэлая творчая лабараторыя (такой увагі заслугоўваюць, мяркую, многія беларускія музычныя калектывы). Але кожную, самую цудоўную ідэю можна забіць неадэкватнай формай яе ўвасаблення. Усе ўдзельнікі аркестра — гонар нашай эстраднай і джазавай музычнай культуры, дзеля якіх, верагодна, і стварайся гэты цыкл, — так і засталіся для гледачоў нерухомымі манекенамі. Магчымасць "падаць" іх у "жывых" гутарках, бліжэй пазнаёміцца з таямніцамі іхняга майстэрства — засталася нявыкарыстанай. І ў тым, што прагучала ў выкананні аркестра ў студыйных умовах, не было "агеньчыка". Калі гэтыя праграмы былі зроблены, так бы мовіць, для гісторыі, дык у нашчадкаў складзецца вельмі невыразнае ўражанне пра сапраўдны "твар" Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі. А, хутчэй за ўсё, не застанецца ніякага. Усё гэта нагадвала ўсталяванне "жывых помнікаў" у праграме "Творцы".

Была спроба "ажывіць" удзельнікаў аркестра ў цыкле перадач, зробленых па слядах апошняга джазавага фестывалю. Але тут добрая ідэя, на жаль, аказалася неразвітаю: ад формы непасрэднай трансляцыі канцэртаў вырашылі адмовіцца, а новую, што адпавядала б стылю джазавай музыкі, не знайшлі.

Мяркую, што ў тэлевізійных музычных праграмах павінна прысутнічаць альбо поўная безасабовасць падачы (хай нават простая трансляцыя выступленняў), альбо, што выглядае значна больш сучасна, моўнае кіраўніцтва кампетэнтнага вядучага. Менавіта кампетэнтнага! Безадказнае стаўленне да выбару людзей, якія "кіруюць" на тэлеэкране, змяншае да нуля самыя наспелыя ідэі. Пагадзіцеся, часта мы не глядзім перадачы толькі таму, што нам не даспадобы вядучыя: нехта прыніжае нас сваёй надзьмутасцю, хтосьці выклікае раздражненне залішняй разнявoленасцю, кагосьці, несапсаванага інтэлектам, слухаць проста нецікава.

Ну, чаму Арцёма Троіцкага, які ляжыць сярод сваіх пярын і зусім не імкнецца спадабацца гледачу, слухаць цікава і лёгка, а красамоўства нашых тэлевядучых пакідае адчуванне напружанай працы? Магчыма, таму, што, уявіўшы сабе якое-небудзь немудрагелістае пытанне, пастаўленае вядучаму "не па тэме", ведаеш, што адказам будзе толькі звонкая цішыня?

**Ганна АЛАДАВА**

# НЕ "STAR", А ПРАФЕСІЙНАЙ СПЯВАЧКАЙ

***...марыць стаць Людміла Лапцэвіч, бо лічыць, што "зоркі" вельмі часта гаснуць, а майстэрства — гэта назаўсёды. Ёй толькі 19, яна вучыцца на трэцім курсе Беларускага універсітэта культуры на аддзяленні мастацтва эстрады. Пасля таго як гэтая простая і непасрэдная дзяўчына падчас выканання песні літаральна на вачах змянялася, рабілася іншай, жыла песняй, — паверылася, што яна дасягне сваёй мэты. Тым больш, што ўсё, што ёй для гэтага патрэбна, у яе ёсць — талент і мэтанакіраванасць, а акрамя гэтага ў яе наперадзе — будучыня. І першае значнае дасягненне на шляху да майстэрства ўжо ёсць, першая значная планка ўжо ўзятая — нядаўна па радыё прагучала песня "Паклонніца" ў выкананні Людмілы Лапцэвіч і Валерыя Дайнекі.***

**— Люда, раскажы пра сябе.**

— Я скончыла музычную школу № 10, дзе дырэктарам працуе Людміла Арцёмаўна Куніцкая, з якой мы падтрымліваем сяброўскія адносіны. Выступала ў дзіцячым ансамблі "Пралеска". На падрыхтоўчых курсах Інстытута культуры мне сказалі, што калі я хачу паступаць на аддзяленне майстэрства эстрады, я павінна іграць на эстрадным інструменце. І я змяніла баян, які вывучала ў музычнай школе, на фартэпіяна.



**— Адкуль такая мэтанакіраванасць?**

— Сцэна для мяне — гэта жыццё. Я выступаю — і мне радасна, мне добра яшчэ і ад таго, што і людзям прыемна ад майго выступлення.

**— Ты шмат выступала?**

— Так, і з ансамблем "Пралеска", і з ансамблем Уладзіміра Бялова ва універсітэце, выступала два разы ў тэатры эстрады, выступала ў "Акварыуме", у рэстаране "Вернісаж" і яшчэ шмат дзе.

**— Што цябе рухае на тваім шляху?**

— Гэта маё жаданне. Я з дзяцінства марыла спяваць і казала, што "хачу стаць Алай Пугачовай". Мама мяне папраўляла — як Ала Пугачова. А я — не, Алай Пугачовай. Цяпер я разумею, што гэта была дзіцячая памылка і ўпартасць. Я хачу стаць своеасаблівай, цікавай спявачкай, якой ёсць што сказаць слухачам.

**— Ці ўдзельнічала ты ў якіх-небудзь конкурсах?**

— Я стала дыпламантам конкурсу "Белая Русь" — І гарадскога фестывалю маладых выканаўцаў эстраднай песні ў 1996 годзе. Тады я ўжо вучылася на першым курсе Універсітэта культуры. Паступіла я туды з вялікімі цяжкасцямі, на камерцыйнай аснове: ніколі не думала, што "завалю" сачыненне. Бо ў дзевятым класе маё сачыненне трапіла ў кнігу "След чорнага ветру" — кнігу пра Чарнобыльскую трагедыю. Некаторыя сачыненні з яе былі перакладзены на японскую мову — маё ў тым ліку. Я не ведаю, што б я рабіла, калі б не бацькі і людзі, якія аплацілі маю вучобу: Пётр Марцаў, галоўны рэдактар "Белорусской деловой газеты", Вальдэмар Навумчык, прэзідэнт фірмы "Прэстыж", а таксама "Беларусбанк".

**— Які ў цябе рэпертуар?**

— Вельмі разнастайны: фальклор, творы беларускіх і замежных кампазітараў. Зараз у супрацоўніцтве з кампазітарам Эдуардам Агароднікам, паэтам Глебам Артханавым, аранжыроўшчыкам Мікалаем Неронскім створана песня "Паклонніца", якую мы з Валерыем Дайнекам запісалі ў студыі Валерыя Грабенкі. Акрамя названых людзей нам дапамагаў Віктар Шавялевіч. Гэта першая песня, якая напісана спецыяльна для мяне.

**— Як гэта атрымалася, што песня запісана разам з Валерыем, як вы пазнаёміліся?**

— Мая мама, вельмі камунікабельная жанчына, пазнаёмілася з Віктарам Шавялевічам і Эдуардам Агароднікам і расказала ім пра мяне. Мяне запрасілі на праслухоўванне, а пасля прапанавалі спяваць гэтую песню. А з Валерыем мы пазнаёміліся ўжо на студыі.

**— Якія ў вас з ім адносіны, што гэта: выпадковая сумесная праца ці будзе нейкае працяглае творчае супрацоўніцтва?**

— З Валерыем у нас сяброўскія адносіны. Ён мне падабаецца і як чалавек, і як спявак. Ён прафесійна спявае, я таксама мару стаць прафесійнай спявачкай. Я мяркую, што гэтая песня — своеасаблівая прыступка, і спадзяюся, што супрацоўніцтва з гэтым спеваком працягнецца. Я мару запісаць кліп з гэтай песняй.

**— Ці не палохае цябе "зорная хвароба"?**

— Я чалавек сціплы па натуры. Я магу радавацца сваім поспехам, але задзіраць нос і гаварыць, што я — "зорка", нават калі я ёю стану, я ніколі не буду.

**— Як ты ставішся да эпатажнай, скандальнай вядомасці?**

— Я адмоўна стаўлюся да гэтага. Мне гэта не патрэбна. Лепш падабацца людзям, чым выклікаць нейкія адмоўныя эмоцыі! Гэта маё перакананне.

**З будучай "зоркай" сустракаўся Міхась БАШУРА**

# МАСТЫХІН



Ф.Янушкевіч. "Беларусь. Канец XX стагоддзя".

## "ГІСТАРЫЧНЫ ЖАНР НЕ ПАВІНЕН ДЭГРАДАВАЦЬ..."

Фелікс Янушкевіч — адзін з нямногіх беларускіх жывапісцаў, творы якога на працягу ўсяго жыцця працінае адна скразная тэма — тэма непарушнай духоўнай сувязі мінулага з нашай няпростай сучаснасцю.

Мастак лічыць, што без нацыянальнай культуры, якую нам пакінулі ў спадчыну продкі, без ведання гісторыі свайго краю, свайго народа нельга пабудаваць незалежнае цывілізаванае грамадства. Грамадства высокай духоўнасці, свабоды і маральнасці.

Больш за чвэрць стагоддзя таму Фелікс упершыню "запаліў сваё святло", напісаўшы могільнік В.Дуніна-Марцінкевіча і Наваградскія муры. Потым у ягоную творчасць увайшлі Цётка і Кастусь Каліноўскі, Рагнеда і Браніслаў Тарашкевіч, Францішак Скарына і Казімір Ляшчынскі, Максім Багдановіч і Уладзімір Караткевіч...

На ягонай сённяшняй выставе ў галерэі "Мастацтва" мы не пабачым гэтых твораў: мастак паказвае гледачу зусім новыя карціны, напісаныя за апошнія два гады. Не ўбачым і вялікія шматпостацевыя кампазіцыі і "гістарычныя" палотны, падобныя да напісаных калісьці "Наступу інсургентаў" альбо "Gloria Nicolai Hussoviani"...

Экспазіцыю складаюць пейзажы і нацюрморты, невялікія карціны на "народныя" тэмы, што нярэдка выходзяць за межы сваіх жанраў, а таксама філасофскія міні-развагі.

Мастацкі свет Янушкевіча не з'яўляецца паслядоўным адлюстраваннем якой-небудзь канкрэтнай падзеі, прыдатнай для рацыянальнага аналізу, — гэта, хутчэй, інтуітыўнае пранікненне сродкамі своеасаблівага мадэлявання "вобразаў". Такім чынам ён мадэлюе свой родны Ракаў, бачачы яго нібыта "з сярэдзіны", "з мінулага", але вачыма сённяшняга ягонага жыхара. Таму час у карцінах Янушкевіча не падобны да гарызантальнай плыні ракі —гэта складаны паэтычны, часам драматычны стан, што застыў у сваім руху...

"Успаміны" — настальгія па правінцыі, дзе сёння мастаку яшчэ можна ачысціцца ад шалупіння гарадской цывілізацыі. "Мая шыпшына" — самотная кветка сярод старажытных "жывых" камянёў, "Гліняны пеўнік", "Святая крыніца", Палёт", "Сёмуха" — усё гэта адтуль, з Ракава, з ягоных напаўзабытых легенд і святаў, народнай ганчарнай творчасці і гістарычных рэліквій. Так, у карціне "Самаахова з Рубяжэвіч" Янушкевіч адлюстроўвае ўзброеных беларускіх ваяроў — рыцара XIII стагоддзя, воя XVII стагоддзя і паўстанца-інсургента XIX стагоддзя на фоне зімовага, таксама ракаўскага пейзажа. Куды яны ідуць са зброяй у руках? Пытанне да гледача...

"Гістарычная карціна як жанр, — гаворыць Фелікс, — цяпер не ў модзе. Аднак я перакананы, што тэма асобы, народа ў гісторыі Айчыны не знікла ў мастацтве. Гледзячы як вырашаць яе. Галоўным аб'ектам творчасці спрадвеку быў чалавек. На ягоным пластычным асэнсаванні, дарэчы, правяраецца прафесіяналізм мастака. Тут крытэрый іншы, больш высокі, скажам, чым падчас працы над пейзажам. Таму гістарычны жанр не павінен дэградаваць, асаблівa ў наш неспакойны час..."

І яшчэ адзін твор прыцягвае ўвагу на выставе. Гэта дыптых, прысвечаны памяці Мікалая Селешчука. Аўтар інтэрпрэтуе тут класічныя біблейскія сюжэты "Распінанне" і "Зняцце з крыжа", трансфармуючы іх у трагічны вобраз Мастака, Мысляра і Сябра. Янушкевіч нібыта кажа пра тое, што прастора свету больш за прастору канкрэтнага жыцця, бо першая ўключае ў сябе і гэтую, нашу прастору, і ячшэ тое, "запрадметнае", "закарціннае"... Менавіта таму свет творчасці Селешчука, мастака еўрапейскага ўзроўню, трывалы і вечны...



Ф.Янушкевіч. "Гліняны пеўнік".

## ПАРАЛЕЛІ МІХАІЛА КАНЬКОВА



Міхаіл Канькоў — мастак ілюзій, міфаў і асацыяцый. Тэмы ягонага жывапісу і графікі — экалогія чалавечай душы, фатальны свет, страчаныя ілюзіі, самота, боль. Адсюль і назвы ягоных твораў — "Гісторыя хваробы", "Час разбураных гнёздаў", "Чырвоная кніга", "Самотная лодка", "З-пад цёмнай вады", "Перарваны палёт", "Паралельнае вакно"...

У ягоных дзіўных творах першапачаткова нібыта закладзены своеасаблівы экзістэнцыялізм. Аўтар гаворыць пра свет, дзе нічога немагчыма змяніць, дзе людзям наканаваныя слепата і няведанне, нібыта рыбам-мутантам з "Самотнага карабля" альбо руінам чалавечага жыцця з "Пейзажа з адной лодкай".

Творы М.Канькова гавораць таямнічымі знакамі і жэстамі, імпульсіўным гучаннем колераў, а не свядомай паслядоўнасцю пабудаваных сюжэтаў. І наогул, большасць ягоных твораў скіраваныя, хутчэй, на стыхійныя суб'ектыўныя страсці перажыванняў, чым на нейкую свядомую, разумовую пабудову паводле загадзя вызначанага сцэнарыя-задумы...

Аднак М.Канькоў на Брэстчыне больш вядомы як аўтар мастацка-комплекснага афармлення дзесяткаў інтэр'ераў музееў, палацаў культуры, навуковых устаноў, дзіцячых садкоў, гатэляў. Гэтая творчая сфера — ягоны другі свет. А магчыма, і першы, гэта з якога боку паглядзець... Ён аўтар мастацкага афармлення Брэсцкага музея выратаваных каштоўнасцяў, музея-цэнтра "Хлеб" (абодва з Б.Малахавым), праекта інтэр'ера і вітражоў Дома грамадзянскіх абрадаў, экспазіцыі мясцовага краязнаўчага музея. Нядаўна ён скончыў праекты інтэр'ераў аддзела ЗАГСа ў Маларыце і гатэля ў Івацэвічах.



М.Канькоў. "Блакітны шар".



М.Канькоў. "Ранішні букет".

*Рэдакцыя "К" віншуе старшыню Брэсцкай арганізацыі Беларускага Саюза мастакоў Міхаіла Канькова з 50-гадовым юбілеем!*

Аўтар "Мастыхіна" Барыс КРЭПАК

## ПРАВІНЦЫЯ НАРАДЖАЕ ТАЛЕНТЫ



Л.Журавовіч. "Аўтапартрэт".

***У Нацыянальнай карціннай галерэі адкрылася выстава графікі Ларысы Журавовіч, таленавітай мастачкі з горада Бялынічы, што на Магілёўшчыне. У 1989 годзе яна скончыла Беларускую акадэмію мастацтваў, дзе вучылася ў В.Шаранговіча і У.Савіча. Пазней яна працягвала адукацыю ў Акадэмічнай творчай майстэрні Г.Паплаўскага. Жыве і працуе ў Бялынічах.***

***А вось як ацэньваюць творчасць Л.Журавовіч яе былыя педагогі.***

***Васіль ШАРАНГОВІЧ, народны мастак Беларусі:***

— Гэта сталы майстар, здольны адчуць і выказаць мовай графікі далікатны лірызм і стрыманую прыгажосць сялянскай працы. У партрэтах землякоў яна ўмее падкрэсліць чуласць і пэўнасць характарыстык персанажаў. У яе своеасаблівая, добра акрэсленая выяўленчая мова і, адначасова, складаная кампазіцыйная рэжысура".

***Уладзімір САВІЧ, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі:***

— Творчасць Ларысы Журавовіч арыгінальная і шчырая. Сваёй тэматыкай яна шчыльна звязаная з жыццём беларускай вёскі. Яе творы вызначаюцца высокім узроўнем графічнай культуры, прыгожым стрыманым каларытам, творчым падыходам да вырашэння кампазіцыйных і тэхнічных задач".

***Георгій ПАПЛАЎСКІ, народны мастак Беларусі:***

— Яе творы вызначаюцца пластычным напружаннем і вострай выразнасцю стылю. Прычым гэта дасягаецца даволі абмежаванай колеравай палітрай і ў той жа час шчырым поглядам на навакольны свет. Немудрагелістыя, лакальныя паводле колеру пейзажы і нацюрморты ў яе выкананні набываюць устойлівы аб'ёмны свет прыгажосці быцця..."



Л.Журавовіч. "Галінка каштана".

№ 40 11 — 17 кастрычніка 1997.



# ПРАЗ 120 ГАДОЎ НА ГЭТЫМ ЖА МЕСЦЫ

— Вось тут твой бацька з хлопцамі трапіў у нямецкую засаду, але неяк вывернуўся, адстраляўся... А колькі яны тут і з Валодзем перахадзілі сцежак!

Яўген Ігнатавіч Крамко, карэліцкі краязнаўца, былы партызан, паказвае мне на купку высачэзных вербаў, чые доўгія галіны трэпле вецер, так што яны, здаецца, дастаюць супрацьлеглы бераг моцна абмялелага Нёмана. А стаім мы — прыезджыя госці — у некалькіх кроках ад моста, ля якога некалі тут, у вёсцы Сіняўская Слабада Карэліцкага раёна, стаяла родная хата Уладзіміра Калесніка.

Сёння Уладзіміру Андрэевічу споўнілася б семдзесят пяць гадоў. І думаецца, што калі б ён быў жывы, то, пэўна, прыехаў бы сюды, на дарагую радзіму, і стаяў бы тут, між нас, пад верасанёўскім сонцам, пад лагодным ветрам, што абвявае агромністую даліну паміж Налібоцкай пушчай, ля якой стаіць Сіняўская Слабада, і вёскай Ярэмічы. Там вось-вось пачнецца ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнай дошкі на сцяне Ярэміцкай школы, якой нададзена ягонае імя. Час ехаць, але мы ўсё стаім тут, дзе ўпершыню пайшоў па шаўкавіста-мяккаму пясчанаму берагу маленькі хлопчык, а пасля партызан Валодзя Калеснік, а далей, праз доўгія гады, заслужаны прафесар, крытык і пісьменнік, а побач з намі стаіць дзевяностагадовы Уладзімір Андрэевіч Навумовіч, некалі першы старшыня мясцовага калгаса "Чырвоны бераг", сусед Калеснікаў, і расказвае пра іхняе жыццё-быццё, а Яўген Ігнатавіч Крамко вядзе нас — хаця на хвіліну — на могілкі, дзе ён з сябрамі некалі хаваў сваіх партызанаў, а таксама тых воінаў, што загінулі падчас аперацыі "Баграціён", якая вогненным крылом зачапіла гэтую, цяпер такую мірную, ціхую даліну. Тут, амаль насупраць былой хаты, сціплы помнік і пяцьдзесят дзве магілы. Я міжволі думаю аб тым, што мой бацька, які ваяваў тут разам з Янкам Брылём і Яўгенам Крамко, Уладзімірам Калеснікам, мог бы ляжаць сярод іх, і, узарвіся бліжэй якая міна ці граната, не нарадзілася б ні я, ні дзеці, а цяпер і ўнукі гэтых людзей, якія так многа зрабілі для нашай Беларусі. А тыя, што ляжаць, — кім бы яны маглі стаць? Гэтая вечная рана ўсё не загойваецца, яна адгукаецца ў нашых сем'ях, у нашай сённяшняй гісторыі...

Па сутнасці я так і не ведаю, ці прачытала цалкам кнігу, сааўтарам якой быў Уладзімір Калеснік. Адчыняла "Я з вогненнай вёскі", чытала старонкі, а пасля горла перахоплівала сутарга, я адсоўвала кнігу, каб пасля, зноў сабраўшыся з сіламі, пачаць чытаць аповеды тых, хто выжыў, — і таксама ніколі не магла закончыць тое чытанне. А ён, Уладзімір Андрэевіч, як і Іван Антонавіч Брыль, не толькі слухалі тыя аповеды — яны **бачылі**.

Жонка пісьменніка Уладзіміра Навумовіча — Люба, чый бацька ляжыць непадалёк ад гэтага месца, паказвае на помнік расстраляным яўрэям, які стаіць пасярод даліны, а пасля дадае, што вунь там, дзе палілі жыўцом людзей, зямля колькі дзён як дыхала. Тут ішлі страшэнныя баі, тут таксама, як і паўсюдна на Беларусі, палілі людзей, але пра ахвяры да Калесніка, Брыля і Адамовіча было прынята гаварыць толькі ў кантэксце гераізму нашага народа. А яны "разбілі" гэты стандарт, паказалі нам простых, не гераічных жанчын і дзядоў, падлеткаў і дзетак, якія хацелі жыць, — і неяк па-новаму адкрываецца гэты пісьменніцкі подзвіг менавіта тут, дзе, мабыць, і нараджалася задума гэтай кнігі.

Юрый Сяргеевіч Бразоўскі, старшыня сельскага савета, вядзе нас да Ярэміцкай школы, цяпер ужо школы імя Уладзіміра Калесніка, і я перабіраю свае ўспаміны пра сустрэчы з Уладзімірам Андрэевічам альбо ўзгадваю моманты, звязаныя з яго працай. Пра што расказаць? Пра тое, першае знаёмства, калі я прыехала ў Брэст на выступленне ў педінстытуце і надта хвалявалася, а ён, падбадзёрваючы, сказаў жартаўліва, што ведае мяне яшчэ да нараджэння, і нагадаў пра агульнае з маімі бацькамі партызанскае мінулае. Тая сустрэча доўжылася ці не тры гадзіны, мы ў канцы ўжо выступалі разам, а студэнты ўсё пыталіся, найбольш у яго, і ён у рэшце рэшт нагадаў, што сустрэча ж не з ім, а з маладой паэткай, якая і сама, забыўшыся на ўсё, слухала яго, як паслухмяная студэнтка... А можа, успомніць, як я, вылоўліваючы з ягонай манаграфіі "Паэзія змагання" амаль не знаёмыя мне тады прозвішчы заходнебеларускіх паэтаў, надумалася зрабіць на Гродзенскім тэлебачанні цыкл перадач пра Грамаду і Таварыства беларускай школы і, аб'ехаўшы ўсю вобласць і Віленшчыну, адкрыла для сябе цэлы пласт нашай гісторыі, а таксама пазнаёмілася з патрыётамі Беларусі, пра якіх тады не надта прынята было ўзгадваць — Паўла Крынчыка, былога пасла Сойма, Антона Фабіянавіча Шантыра — сына Зоські Верас, Янку Шутовіча, першага выдаўца Максіма Танка, і іншых... А можа, расказаць пра тое, як дзякуючы Уладзіміру Калесніку адкрыла для сябе паэта Уладзіміра Жылку — першае знаёмства з гэтай тонкай, чуйнай, трапятлівай душой было для мяне сапраўдным духоўным святам... Помніцца, адзін з маладых сённяшніх крытыкаў асуджальна назваў прадмову да таго зборніка "прыстасавальніцкай", маўляў, Жылка ніколі не падтрымліваў камуністычныя ідэі. Але без гэтага сказа кніжка папросту б не выйшла, дый і я, як і іншыя, не надта звярнула ўвагу на гэты тэзіс, яўна "прыцягнены за вушы": важней было само знаёмства, сам факт выхаду **такой** кнігі.


Уладзімір Калеснік.

А пасля былі ўрачыстасці — мы з Уладзімірам Навумовічам знялі белы покрыў з мемарыяльнай дошкі, перарэзалі стужку ў пакоі-музеі, дзе ляжалі рукапісы У.Калесніка, ягоныя кнігі, публікацыі, а таксама віселі карціны і разьбяныя вырабы нашага славутага земляка, надзіва таленавітага ва ўсім — у творчасці, у сяброўстве, у самім уменні жыць, прыносячы радасць іншым.

Я глядзела на дзіцячыя тварыкі і вельмі хацела аднаго — каб для іх Уладзімір Андрэевіч не ператварыўся ў нешта музейнае, застыглае. Апошнім часам ён хварэў, і яны, сённяшнія пяці-шасцікласнікі, яго не ведаюць зусім: яго іранічную абаяльнасць інтэлігента, які з сялянскага хлопчыка стаў адным з самых адукаваных людзей Беларусі, яго спакойную ветлівасць і дабрыню, яго ўменне самае складанае зрабіць простым і ясным.


На гэтым беразе, справа, некалі стаяў дом Калеснікаў.

Але пасля мой позірк затрымаўся на ягоных кнігах (выстава, прывезеная з Карэліч, выглядала вельмі ўнушальна, нават у школьным дворыку, дзе праходзіла ўрачыстасць). І я падумала: у іх засталося самае галоўнае — талент і любоў да радзімы. З гэтай любоўю збіраў Уладзімір Калеснік па збуцвелых архіўных папках вершы заходнебеларускіх паэтаў, ды і проста тых, хто знічкай прамільгнуў на паэтычным небасхіле, пакінуўшы пасля сябе след, — такіх, напрыклад, як яшчэ адзін наш зямляк Алесь Мілюць. Сабраныя разам, яны і сёння — асабліва сёння! — як бы паказваюць крынічную свежасць мовы, якая нараджала літаратуру, вартую любові, самай вялікай краіны.

Можа, гэтыя дзеці якраз і не дадуць ёй загінуць канчаткова?!

Не далі ж загінуць мясцовай царкве Ушэсця жыхары Ярэмічаў. Схавалі абразы, усе гады дабіваліся, каб вярнулі вернікам памяшканне, дзе пасля таго як зачынілі царкву, быў спачатку склад, а затым — проста здзічэлы будынак, дзе цякло па сценах і лёталі кажаны.

Вольга Мікалаеўна Станкевіч, якая вучылася з Уладзімірам Калеснікам, і былая настаўніца Ганна Уладзіміраўна Бандарык (чыя цётка, дарэчы, была мачыхай Уладзіміра Андрэевіча), якая таксама, як і яе славуты зямляк, вучылася ў Навагрудскім педвучылішчы, з гонарам паказвалі сённяшнюю ўтульную, прыгожую царкву, адбудаваную колькі гадоў таму, асабліва ж — абраз Маці Боскай, яго яшчэ ў 1938 годзе пехатою неслі з Пачаеўскага манастыра ярэмічане, а таксама называлі абразы, ахвяраваныя яшчэ ў 1881 годзе прыхаджанамі, чые імёны захаваліся на медных таблічках. І яшчэ адзін знак памяць паказалі мне жанчыны — надпіс над магілай настаяцеля Івана Рыбцэвіча, пахаванага тут, непадалёк ад алтара 22 студзеня 1873 года — больш чым 120 гадоў таму.

Добра, што надпіс захаваўся — ёсць магчымасць уявіць гэтага чалавека, які рупіўся аб духоўным жыцці навакольных людзей.

...Добра б, каб захаваўся мемарыяльны знак, які мы адкрывалі 17 верасня 1997 года, каб не знесла яго са сцяны школы ні варожае нашэсце, ні духоўны занепад народа. Каб захавалася імя чалавека, які так любіў Беларусь. І ягоныя кнігі, і ягоныя справы...

Захаваліся на гэтай шчодрай на хлеб, але часам няласкавай для лепшых сваіх сыноў зямлі, куды цяпер многае вяртаецца, нягледзячы на ўсе складанасці часу.

Аб гэтым гаварыў загадчык Карэліцкага аддзела культуры, руплівы да спадчыны сваіх землякоў, нястомны завадатар самых цікавых культурніцкіх спраў на раёне Уладзімір Тананка, а таксама намеснік старшыні райвыканкама Аляксандр Самец. 27 памятных знакаў ужо адкрыта на Карэліччыне за няпоўныя дзесяць гадоў, адзначана як памятныя 8 камянёў (хто не чуў, напрыклад, пра славутыя камяні філаматаў?).

Добра было б, каб усё гэта вярталася ўжо назаўсёды...

**Вольга ІПАТАВА**
**Фота Ягора ФЯДЗЮШЫНА**

# ЗБІРАЛЬНІК ПАМЯЦІ

Праязджаючы шторазз праз Блонь, гэта калі на машыне з Мінска, альбо — праз усю Блонь, калі на аўтобусе з Мар'інай Горкі, думаю пра музей, што схаваўся за дрэвамі, бліжэй да Цітаўкі. Пра Пухавіцкі раённы краязнаўчы музей... Ён месціцца ў старой, мінулага стагоддзя сядзібе Бонч-Асмалоўскіх. Так, тых самых Бонч-Асмалоўскіх, якія ў судакрананні з усімі гранямі беларускай гісторыі канца XIX — пачатку XX стагоддзя. З рэвалюцыйнай, грамадскай, літаратурнай гісторыяй у судакрананні... У 1879 годзе Анатоль Восіпавіч Бонч-Асмалоўскі, рэвалюцыянер-народнік, за ўдзел у студэнцкіх хваляваннях быў высланы ў бацькоўскі маёнтак Блонь Ігуменскага павета. Выслалі з пазбаўленнем права вучыцца ў ВНУ. Але рэвалюцыйнай барацьбы малады чалавек не пакінуў. У хуткім часе, пасля смерці бацькі, маёнтак Блонь пераходзіць ва ўласнасць Анатоля Восіпавіча. Дзякуючы яго і жончыным — Варвары Іванаўны Вахоўскай — намаганням Блонь стала апорным пунктам рэвалюцыянераў розных накірункаў. Менавіта ў тыя гады заклалася сувязь з гэтымі мясцінамі многіх вядомых рэвалюцыянераў, грамадскіх дзеячаў і пісьменнікаў. Кацярына Брэшка-Брашкоўская і Адам Ягоравіч Багдановіч, Леся Украінка і Сяргей Мяржынскі, Яўген Чырыкаў ды і шмат хто яшчэ... Маёнтак захаваўся да нашага часу. Засталіся нават сляды, нават фрагменты парку.

Раней раённы музей знаходзіўся ў Дукоры. Старажытнае мястэчка. Таксама з багатай гісторыяй. Але неяк так адчувалася, што музей, існуючы ў Дукоры, быў як быццам наводшыбе, у баку ад вялікай пухавіцкай гісторыі. У Блонь жа і дабрацца працай з розных куточкаў, і ўжо тое, што музей знаходзіцца ў старадаўняй сядзібе... На чале музея — руплівы збіральнік памяці Пухавіцкай зямлі Аляксандр Аляксандравіч Прановіч. Параўнальна нядаўна, калі мераць час, жыццё чалавечае дзесяцігоддзямі, кіруе ён музеем. Мо нейкіх гадоў пяць. Здавалася б, для музейшчыка стаж зусім мізэрны. Ды, па-мойму, усё залежыць ад таго, як, з якім настроем працуе чалавек. Аляксандр Аляксандравіч якраз з кагорты такіх людзей, што захоплены, апантаны працай. Прыйшоўшы на музейную ніву ў сталым ужо ўзросце, Прановіч імкліва расце і як спецыяліст, і як энергічны збіральнік усялякіх памятак пра родную Пухаўшчыну. Музей з дня ў дзень багацее на гістарычныя звесткі пра старажытную зямлю. Наведнікам (у большасці сваёй — жыхарам Мар'інай Горкі, Пухавіцкага раёна) адкрываюцца ўсё новыя імёны славутых землякоў. Мне здаецца, што гэта і пра Прановіча ў лісце да Сямёна Сцяпанавіча Гейчанкі пісаў вядомы арганізатар музейнай справы Архіпаў: "Музейшчык — гэта асаблівая людская парода. Памятаеш, Мцыры ў Лермантава гаворыць: "Я видел груды этих скал... и думы их я угадал, мне было свыше то дано!" І нам таксама нешта дадзена. Гаварылі ж з намі і дуплаватыя ліпы, і сцены палацаў... і патэтычнае барока, і мармуро-


Сядзіба Бонч-Асмалоўскіх, у якой месціцца музей.

# КАБ ЗАЎСЁДЫ БЫЛІ САЛАМЯНЫЯ ЗВЯРЫ


Свята адкрывае Яўген Сахута.

Распачаўся І Рэспубліканскі свята-конкурс саломапляцення "Саламяны цуд" надзвычайна. У вялікай зале сталічнага Палаца ветэранаў замест традыцыйнай чырвонай стужкі быў перапілены сярпом саламяны сноп. Даволі доўгі час публіку весяліў фальклорны гурт "Валачобнікі" Беларускага ўніверсітэта культуры. Ягоныя тэатралізаваныя выступы і цудоўныя песні нагадвалі толькі падрыхтоўку перад прадстаўленнем. А яно пачалося!.. Усім прысутным абвясцілі... дваццаціхвілінны антракт, падчас якога ў зале-фае і адбыліся конкурсы пляцёнкі, фігурнага пляцення і аплікацыі. Майстры з розных


Залацістыя конь і вазок — адзін з экспанатаў выставы.

абласцей нашай краіны змагаліся за званне лепшага. На вачах здзіўленых наведнікаў нараджаліся фантастычныя краявіды, зубры, коні, пеўні, куфэркі, капелюшы. І ўсё дзякуючы саломцы!.. Былі на свята "Саламяны цуд" прывезены і гатовыя мастацкія працы. Іх можна было паглядзець, завітаўшы ў выставачную залу. Тут вочы наведнікаў проста разбягаліся. Бо столькі багацця прывезлі народныя майстры!.. Быццам бы паклалі на паліцы не саламяныя вырабы, а зробленыя з золата! Пад чарадзейнымі рукамі народных майстроў салома ажыла, засвяцілася — ператварылася ў цуд! Здавалася, і не ў выставачную залу трапіў, а ў нейкі казачны свет.

Дэбют галоўнага рэжысёра "Саламянага цуду" Уладзіміра Бабошына можна назваць удалым. Усе моманты мерапрыемства былі прадуманы да дробязі. Нават жырандолі паўсюль зрабілі з саломкі. Добра глядзеліся і выступленні дзіцячых калектываў, што адбываліся падчас конкурсаў — спевы фальклорнага ансамбля "Вербічка" і экстравагантныя спектаклі ўзорнага фальклорнага тэатра "Пацешнік". Апошні, сапраўды, развесяліў усіх. Бо аднекуль выпаўз чорт з барадкай, які не стаў пужаць, а распавёў смешную гісторыю. Танчылі маладыя цыганкі, якія падміргвалі гледачам.

Вызначаць пераможцаў конкурсаў прыйшлося журы, людзям вядомым — Яўгену Сахуце, старшыні Саюза майстроў народнай творчасці, доктару мастацтвазнаўства; Вользе Лабачэўскай, вядучаму навуковаму супрацоўніку БелІПК; Любові Раманенка, загадчыку мастацка-графічнага аддзялення факультэта народнай культуры БДПУ імя М.Танка; Рыгору Шауры, загадчыку кафедры народных рамёстваў Беларускага ўніверсітэта культуры і Людміле Вакар, кандыдату мастацтвазнаўства. Прымалі ўдзел у свяце таксама намеснік міністра культуры Валерый Гедройц і начальнік упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Тадэвуш Стружэцкі.

Пакуль падводзіліся вынікі конкурсаў, усіх запрасілі на другую частку святочнага канцэрта ў вялікую залу, дзе калектывы "Зубраня", "Калядкі", "Рэй", "Пухаўчанка", "Вечарына" на працягу некалькіх гадзін забаўлялі гледачоў. На маю думку, больш за ўсіх вылучыўся фальклорны ансамбль Рэспубліканскага палаца ветэранаў "Вечарына". Сем бабулек з двума старымі музыкамі проста ашаламілі сваімі жартоўнымі песнямі. Бабулькі нібыта памаладзелі ад добрага настрою, што лунаў у зале.


Пенсіянер Альберт Сяргеевіч Калінчык з вёскі Выкава Карэліцкага раёна ўжо шмат гадоў займаецца разьбой па дрэве. Ягоная сядзіба нагадвае музей, а сотні работ неаднаразова экспанаваліся на розных выставах.
**Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.**

Падчас правядзення конкурсаў я падышоў да генеральнага дырэктара свята Наталлі Грушкоўскай-Багдановіч і задаў ёй некалькі пытанняў.

**— Чым, на ваш погляд, сённяшняе свята адметнае?**

— Упершыню на Беларусі праводзіцца свята-конкурс, дзе майстры з усіх абласцей краіны змагаюцца за званне лепшага. Плануем зрабіць у наступным годзе свята для майстроў пляцення з лазы. І гэткія мерапрыемствы будуць адбывацца да 2005 года па ўсіх відах традыцыйных беларускіх рамёстваў.

**— Хто з майстроў можа атрымаць званне лепшага?**

— Практычна ў кожнай абласной дэлегацыі ёсць прадстаўнікі Беларускага Саюза майстроў народнай творчасці. Гэта вельмі радуе. Бо ў наш Саюз прымаюцца мастакі, якія ўжо дасягнулі пэўнага ўзроўню. Я спадзяюся, што сёння нас здзівяць сваім майстэрствам Кацярына Асташэвіч з Мінскай вобласці і Зінаіда Ляўчэня з Магілёўскай. Саломапляценне — гонар нашай краіны, бо ёсць толькі "беларуская саломка". Вось як ёсць абварная кераміка — адзіная ў свеце. Між іншым мы думаем правесці святы вышыванкі, ткацтва. Фактычна арганізацыяй гэтых мерапрыемстваў займаецца наш Беларускі Саюз майстроў народнай творчасці. Ставім мы перад сабой задачу і аднавіць некаторыя віды рамёстваў, якія сёння амаль забытыя, — гэта і выцінанка, і разьба па дрэве. Такія святы будуць адбывацца ў розных гарадах і мястэчках Беларусі.

Прыемна здзівіў нядаўна Рыгор Шаура, які прапанаваў наладзіць свята ткацтва ў зале Беларускага ўніверсітэта культуры. Бо там ёсць дзесяць кроснаў.

**— Сённяшняе свята можа вырашыць нейкія набалелыя праблемы народных майстроў?**

— Святы ніколі не вырашаюць праблем, але святы надаюць ім увагу. На жаль, праблемаў у майстроў, што жывуць на Беларусі, — цэлы акіян. Да гэтага часу заканадаўцамі не зацверджана палажэнне аб статусе народнага майстра Беларусі. Практычна пасля атрымання нашай рэспублікай незалежнасці спыніла сваю дзейнасць палажэнне аб народных майстрах СССР. Не зацверджаны Законы аб творчых саюзах, Законы аб народных рамёствах і фальклоры. Таму цяпер, сапраўды, праз гэткія святы мы стараемся звярнуць увагу на нашы праблемы. Бо калі грамадскасць задаволена нашай дзейнасцю, мы можам спытаць: "Вам спадабалася? Дык давайце вырашаць нашыя праблемы". Для іх вырашэння і стварыўся наш Саюз.

* * *

Напрыканцы свята Яўген Сахута і Тадэвуш Стружэцкі зачыталі даўжэзны спіс пераможцаў. Шчаслівцы атрымалі грашовыя прэміі ў памеры аднаго мільёна рублёў і памятныя дыпломы, некаторым дасталіся прызы — кнігі і талеркі. Першыя месцы прызначылі майстрам: за аплікацыю — Раісе Раманеня, за фігурнае пляценне — Таццяне Хадановіч, за пляцёнку — Тэрэзе Курдзяковай.

Усім прысутным свята спадабалася. Мабыць, яшчэ доўга дзеці, што тут пабылі, будуць узгадваць пра казачных звяроў з саломкі. Будуць узгадваць наведнікі і пра чарадзеяў, што стварылі "Саламяны цуд". Калі я сыходзіў з Палаца ветэранаў, у маёй галаве як рэха зноў прагучалі словы генеральнага дырэктара свята: "Вам спадабалася? Дык давайце вырашаць нашыя праблемы". Можа, наспеў час?

**Зміцер ВОЛКАЎ**
**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.**

---

выя пліты манплезірскіх галерэй!"

Аляксандр Аляксандравіч не замыкаецца і ў незаўважнай большасцю карпатлівай музейна-даследчыцкай рабоце. Дырэктар памятае, што ўстанова, падначаленая яму, павінна мець асветніцкі характар, павінна прыцягваць да сябе людзей не адно толькі экскурсіямі, маўклівымі экспазіцыямі. Вось і адбываюцца ў музеі сустрэчы з пісьменнікамі, мастакамі. З нядаўніх мерапрыемстваў — вечар памяці народнага пісьменніка Беларусі Івана Чыгрынава. У госці да пухаўчан прыехалі жонка і малодшая дачка літаратара, а таксама сябры, добрыя знаёмыя Івана Гаўрылавіча — старшыня Праўлення Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп, прафесар, доктар філалагічных навук Дзмітрый Бугаёў, сакратар Праўлення пісьменніцкай арганізацыі краіны Віктар Супрунчук, паэт Алесь Пісьмянкоў. Да сустрэчы падрыхтавалі ў музеі экспазіцыю "Іван Чыгрынаў і Пухаўшчына". І ўсе гэта, безумоўна, зусім не выпадкова. У адной з Пухавіцкіх вёсачак — лецішча Івана Чыгрынава. У свой час пісьменнік вылучаў сваю кандыдатуру на выбары ў парламент ад Пухаўшчыны. Чыгрынаў і зараз сваім святлом, сваёй памяццю як быццам яднае Пухавіцкі край з літаратурным Мінскам. Вось і зусім нядаўна ў музеі адбылася сустрэча настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры раёна з паэтам Анатолем Вярцінскім. Разам з ім у госці да пухаўчан у чарговы раз завітала ўдава Івана Чыгрынава — Людміла Прохараўна.

Дырэктар Пухавіцкага раённага краязнаўчага музея апошнім часам — актыўны аўтар мясцовай раённай газеты "Пухавіцкія навіны". І выступае ў друку не толькі і далёка не толькі з паведамленнямі пра музейнае жыццё. Аляксандр Аляксандравіч даследуе невядомыя дагэтуль старонкі Пухавіцкай гісторыі. З цікавасцю чытаюцца яго артыкулы пра сям'ю Бонч-Асмалоўскіх, пра знакамітых ураджэнцаў пухавіцкай зямлі. З апошніх публікацый А.Прановіча ў раённай газеце — артыкул "Леся Украінка і Блонь". Відавочна, што ўпершыню такім чынам пастаўленна пытанне, якое, магчыма, з часам асобным радком увойдзе ў гісторыю беларуска-украінскіх літаратурных узаемаадносін. А вось пачатак, першаасновы закладвае пухавіцкі знаўца мінуўшчыны.

...Пухавіцкая зямля — асаблівая старонка Міншчыны, ды і ўсяе Беларусі. З біяграфіяй гэтай мясцовасці звязаны імёны Аляксандра Чарвякова і Міхася Чарота, Іосіфа Жыновіча і Уладзіміра Лабанка, Якава Смушкевіча і Уладзіміра Хадыкі... Дзяржаўныя дзеячы, пісьменнікі, кампазітары, акцёры, военачальнікі і слаўныя, адзначаныя дзяржаўнымі ўзнагародамі працаўнікі. Дырэктар музея імкнецца нікога не абысці ўвагай, занатаваць імя кожнага земляка, зрабіць уяўнай іх прысутнасць у музейных пакоях, у той альбо іншай экспазіцыі.

Адметна, што ў Аляксандра Прановіча ёсць, калі можна так сказаць, паплечнікі. Плённа працуюць на краязнаўчай ніве былы бібліятэкар з Полацка Аляксандр Васілевіч Пікуль, мар'інагорскі настаўнік Барыс Муха, настаўніца гісторыі і геаграфіі з Талькі Наталля Ільініч. Да нядаўняга часу апантана займаўся пухавіцкім краязнаўствам заслужаны настаўнік БССР, стваральнік двух музеяў у СШ № 3 Мар'інай Горкі Віктар Рыгоравіч Арлоў. На жаль, яго ўжо няма сярод жывых. Але засталіся многія і многія публікацыі. У той жа "раёнцы", у абласной газеце "Мінская праўда", у рэспубліканскіх газетах і часопісах. Згадваю, пералічваю імёны краязнаўцаў, каб заўважыць, што Пухаўшчына багатая на даследчыкаў, уважлівых, руплівых збіральнікаў памяці пра родны край. Мо з часам яны паяднаюцца ў сваіх намаганнях. Напрыклад, генератарам такога паяднання выступіць раённы краязнаўчы музей на чале з Аляксандрам Аляксандравічам Прановічам. А плён... Магчыма, плёнам стане раённая кніга "Памяць" альбо які іншы важкі, значны праект.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

ЧАМУ Б НЕ?





# НАВОШТА ПРЫКЛЕЙВАЦЬ ЛЮДЗЕЙ ДА СЦЕНАЎ?

Сапраўды, навошта? А таму, тлумачыць Анжы Хіесл, што гэта вельмі модна і прыгожа. І да таго ж, непасрэдна баварцаў, як, дарэчы, і бундэсбюргераў з іншых земляў, ніхто гвалтам да сцэнаў не прыклейвае, а ўсаджвае на вельмі ўтульныя крэслы. І што істотна — яшчэ і за грошы.

Што ж да вышыні (а сядзелі яны на адлегласці чатырох метраў ад брукаванкі), дык "экспанаты", згодна з запэўніваннямі фраў Хіесл, яе проста не палохаюцца. Тым больш, што кожны з іх быў застрахаваны ад падзення спецыяльным рамянём, накшталт тых, што выкарыстоўваюцца ў самалётах.

На пытанне, чаму сваю "выставу" Анжы наладзіла ў цэнтры Мюнхена, а не ў родным Кёльне, яна адказала: "А чаму б не?". Потым падрабязна распавяла, колькі цяжкасцяў ёй давялося пераадолець, каб увасобіць мару ў рэальнасць. Колькі кабінетаў чынавенства яна абышла, колькі напісала розных просьбаў і зрабіла заяў.

Так, мастацтва патрабуе ахвяраў. На шчасце, у сталіцы Баварыі ніхто з крэсла не зваліўся і нічога сабе не паламаў. А гэта, між іншым, магло здарыцца. Бо на крэслах, як вы можаце пераканацца, сядзелі людзі далёка не першай маладосці (ад 61 да 88 гадоў). Усяго іх было трынаццаць (як і крэслаў) чалавек. І за кожную гадзіну добраахвотнага сядзення яны атрымалі па 150 марак.

Сотні, калі не тысячы турыстаў сабраліся ля іхніх ног. Тут жа заключаліся пары, ці ўпадзе ў бабулі бульбіна, якую яна абірае ножыкам, альбо ці знясе ветрык аркуш паперы з кален баварца, ці той здолее яго ўтрымаць... Гучалі таксама заклікі "спыніць гэтае глупства і вярнуць старых на зямлю". Але на іх ніхто не звяртаў асаблівай увагі, а "падвешаныя" і наогул рабілі выгляд, што знаходзяцца ў сваёй гасцёўні ля каміна. Ну, а Анжы Хіесл (дарэчы, харэограф паводле адукацыі) з лёгкай усмешкай на вуснах тлумачыла, што некалі абстракцыяністаў таксама цкавалі і высмейвалі, а цяпер...

Што адбываецца з абстракцыяністамі і іхнімі творамі, мы з вамі ведаем (альбо, прынамсі, здагадваемся). Адносна ж будучыні новага накірунку ў мастацтве, заснавальніцай якога можна справядліва лічыць фраў Хіесл, дык яна ёй бачыцца шматабяцальнай. Невыпадкова ў гэтыя дні жанчына дамагаецца ад уладаў баварскай сталіцы дазволу зрабіць выставу "Людзі ў паветры" калі не пастаяннай, дык хаця б рэгулярнай. Больш за ўсіх за поспех яе ініцыятывы "хварэюць" гаспадары рэстаранчыкаў, карчомак ды кафэ, побач з якімі фраў Хіесл "расклейвала" па сценах свае "экспанаты".

# ШЧОДРЫ ГАНС БУДУЕ МУЗЕЙ ЗА МУЗЕЕМ

Калекцыянер з нямецкага горада Дуйсбурга Ганс Гротэ гатовы падзяліць свае мастацкія каштоўнасці на некалькі частак. Адну частку сваёй велізарнай калекцыі ён жадае перанесці ў новы будынак на знакамітай дзюсельдорфскай Кёнігсалее. Тут неўзабаве будуць размешчаны пад адным дахам музей, гатэль і галерэі.

Яшчэ летась гер Гротэ падпісаў дамову ў сваім родным Дуйсбургу з мясцовым жыллёва-будаўнічым кааператывам аб выкарыстанні адыходаў будаўніцтва пры ўзвядзенні Музея сучаснага мастацтва. Кошт усяго праекта складзе каля 30 мільёнаў нямецкіх марак. Каля 150 экспанатаў (а агульная іх колькасць дасягае 600) агромністай калекцыі Ганса Гротэ павінны быць, згодна з праектам, размешчаны на плошчы 5 200 квадратных метраў ужо да пачатку 1999 года: гэта, сярод іншых, творы Боўса, Граўтнера, Кіфера, Пенка, Полке.

У красавіку бягучага года калекцыянерам Гротэ была падпісана яшчэ адна дамова — з гарадской адміністрацыяй Бона аб будаўніцтве музея для часткі калекцыі, што ўключае ў сябе прыблізна 50 твораў жывапісу і графікі. Гэтая будоўля будзе каштаваць 8,5 мільёна марак.

Цяпер Ганс Гротэ прадставіў для канчатковага ўзгаднення з гарадскім Саветам Дзюсельдорфа праект аб новым, ужо трэцім па ліку, будаўніцтве. Гэты музей Гротэ мяркуе пабудаваць на ўласныя сродкі. Камерцыйныя вынікі праекта калекцыянер атрымае на працягу наступных дваццаці гадоў.

# ЧАРАМ СПАКУСНІЦЫ НЕ ПАДДАЎСЯ

60-гадовы Лучыяна Павароці каля года таму вырашыў, мабыць, што наспеў час пажыць для сябе.

На тое, каб набыць свабоду ад законнай жонкі, ён не пасквапіўся — 300 мільёнаў долараў наяўнасцю і нерухомасцю. Тады ён аддаў сваё вызваленае сэрца маладой сакратарцы (26). Здаецца, нядаўняя шчодрасць найвядомейшага тэнара прыцягвае да яго прыгажунь пэўнага гатунку. Пасля аднаго з канцэртаў у Мадэне яго спрабавала спакусіць Брыгіта Нільсэн, якая праславілася дзвюма рэчамі — памерам грудзей і мільёнам долараў, якія яна зарабіла за ноч, праведзеную з нафтавым магнатам. Што да мільёна, мяркую, яго даўно ўжо няма, а вось грудзі — пакуль капітал. Яго і паспрабавала выкарыстаць 33-гадовая спакусніца, прыціскаючыся да шырокай спіны Лучыяна. Толькі дарэмна. Ці ён стаў больш асцярожным з жаночым племем? Ці захоўвае сілы для выступленняў? А магчыма, бялявыя жанчыны — не ягоны густ? Карацей, з мілай усмешкай на вуснах ад прапановаў прыгажуні Павароці адмовіўся.

*(Паводле матэрыялаў замежнага друку.)*

# ЗОРКІ — "ЗОРКАМ"

## АСТРАПСІХАЛАГІЧНЫ ПРАГНОЗ ДЛЯ ТВОРЧЫХ ЛЮДЗЕЙ НА ПЕРЫЯД З 13 ПА 19 КАСТРЫЧНІКА

*Тыдзень з 13 па 19 кастрычніка будзе неадназначным ў праявах творчай актыўнасці большасці з нас. У ягонай першай палове і ў сярэдзіне многія людзі здолеюць адшукаць нечаканыя па сваёй смеласці шляхі выйсця з бяздзеяння, заняпаду і застою. Пры гэтым рэалізацыя доўгатэрміновых планаў, праектаў і задум здольная набыць новую афарбоўку, што запатрабуе значнай вынаходлівасці ды хітрасці. Тыя, хто не прызвычаіўся дзейнічаць аднойчы і назаўсёды завучанымі спосабамі і метадамі, здольныя дамагчыся ў гэты час вялікіх поспехаў. Усім нам у гэты час неабходна будзе назапасіць цярплівасць і павагу да меркаванняў тых,хто побач. Карысна памятаць параўнанне ісціны са шматбаковым крышталём, а нашае бачанне праўды — з разглядам аднаго з бакоў: колькі пунктаў погляду, столькі і бакоў у ісціны. Да другой паловы тыдня атмасфера стане больш напружанай. Імкненне да пошуку і актыўных дзеянняў будзе дрэнна кантралюемым з боку волі і здаровага сэнсу. Жаданне адразу злавіць двух зайцоў падштурхне многіх да шырокамаштабных, нават авантурных, але, у рэшце рэшт, безвыніковых акцый. Вялікая верагоднасць таго, што шмат хто з нас будзе падпарадкаваны ўласным ілюзіям і неасэнсаваным памкненням. Без асаблівых страт і ўражанняў перажывуць гэты перыяд тыя,хто здолее авалодаць сваімі эмоцыямі і ў кожнай сітуацыі даверыцца выключна цвярозаму і халоднаму розуму. Непажадана ў гэты час прымаць на сябе цяжар ў выглядзе алкагольных напояў. На жаль (альбо на шчасце), падобная "прышчэпка" не вызваліць душу ад пакут.*

АВЕН: У першай палове тыдня розныя планы, праекты і стасункі з калегамі запатрабуюць свежага погляду. Могуць узнікнуць пытанні правільнага размеркавання грошай і неабходнасці розных набыткаў матэрыяльнага характару. На працягу ўсяго тыдня будзьце ўважлівымі пры ўдзеле ў розных перамовах, высвятленнях адносінаў і заключэнні кантрактаў. У першай яго палове поспеху можа перашкодзіць ваша жорсткая пазіцыя, а ў другой палове — празмерная імпульсіўнасць і паспешлівасць.

ЦЯЛЕЦ: На пачатку тыдня ўвагу прыцягне да сябе ваша рэпутацыя і ўменне ўзяць на сябе адказнасць у важных справах. Выказаўшы вялікую вынаходлівасць, вы здолееце знайсці нечаканыя шляхі падвышэння папулярнасці. У першай палове тыдня вы здолееце ўдала вырашыць шэраг праблем, звязаных з папулярнасцю. У ягонай другой палове вы будзеце здольныя шмат што абнавіць без шкоды для блізкіх, калі, безумоўна, не будзеце занадта прасталінейнымі.

БЛІЗНЯТЫ: У першай палове тыдня поспех альбо няўдача ў падарожжы шмат у чым будзе залежаць ад вашай кемлівасці, ініцыятыўнасці і вынаходлівасці. Асабліва гэта датычыць дробязяў. Выказванне Лао-Цзы пра тое, што шлях велічынёй у тысячу лі пачынаецца з аднаго крока, будзе вельмі актуальным. У гэты ж час вы можаце атрымаць поспех у розных авантурных і рызыкоўных справах. Праўда, кідацца ў іх з галавой і рызыкаваць усім гранічна непажадана.

РАК: Выказаўшы вынаходлівасць і нестандартнасць учынкаў, вы зазнаеце поспех, калі скарыстаеце моц ветру перамен для дасягнення ўласных мэтаў на пачатку тыдня. У ягонай другой палове, захаваўшы спакой і скрупулёзнасць, вы будзеце здольныя з зайздроснай лёгкасцю абыходзіць усе вострыя куты ў праявах свайго майстэрства.

ЛЕЎ: Усялякія сюрпрызы ў першай палове тыдня прынясе вам партнёрская сфера. Іх прыемнасць і карысць залежаць ад таго, наколькі ўважлівымі вы будзеце да прапаноў і ініцыятываў, што паступаюць ад партнёраў падчас вырашэння спрэчных пытанняў. Утапічныя, на першы погляд, яны могуць прынесці значны поспех у бліжэйшай будучыні. У другой палове тыдня будзьце асцярожныя і акуратныя ў зносінах, асаблівую ўвагу надайце сваёй мове. Недарэчныя альбо неадэкватна выказаныя меркаванні могуць стаць прычынай усялякіх непаразуменняў з тымі, хто побач.

ПАННА: Нечаканыя рашэнні праблем уласнага майстэрства, што даўно надакучылі, могуць прыйсці да вас у першай палове тыдня. Ваша задача — убачыць іх і правільна выкарыстаць. Не адкідвайце адразу парады і меркаванні калег. У іх можа быць доўгачаканы ключ да рашэння. У другой палове тыдня ўдалымі будуць кантакты з блізкімі. Іншы раз наканаванае выказваецца праз банальныя ісціны.

ШАЛІ: "Хто не рызыкуе, той не п'е шампанскага". У зусім нечаканым ключы вам могуць адкрыцца ў першай палове тыдня розныя авантурныя і рызыкоўныя справы. Гэта не значыць, што рызыка абавязкова павінна прынесці перамогу. Здолейце адмовіцца ад падобных мерапрыемстваў. Адначасова вам пашанцуе ў вырашэнні асабістых пытанняў. У другой палове тыдня прысвяціце час жывым зносінам, бо падобныя кантакты будуць карыснымі і шматабяцальнымі.

СКАРПІЁН: Свежы погляд на сямейныя справы і ўласны побытавы лад можа прынесці першая палова тыдня. Акрамя гэтага, вы будзеце ў гэты час паспяховыя ў розных неафіцыйных і дабрачынных акцыях. Каб пазбегнуць у будучым шкоды ад нядобразычліўцаў, імкніцеся паменшыць уласныя патрабаванні і прэтэнзіі на папулярнасць, а ў другой палове тыдня адмоўцеся ад іх цалкам. У гэты час вашыя сюрпрызы і падарункі будуць пажаданымі і шчыра ўсцешаць блізкіх.

СТРАЛЕЦ: Двухсэнсоўнай будзе для вас першая палова тыдня. Выказаўшы кемлівасць і ўменне чытаць паміж радкоў, вы здолееце набыць новыя шматабяцальныя сувязі альбо своечасова адмовіцца ад непатрэбных і неапраўдана абцяжарваючых старых. У гэты ж час вы будзеце здольныя ўдала спланаваць рэалізацыю шэрагу ўласных творчых задум і ідэй. Да другой паловы тыдня такое планаванне пажадана скончыць альбо адкласці.

КАЗЯРОГ: Розныя нечаканасці ў першай палове тыдня здольны прынесці матэрыяльны бок вашага жыцця. Ад таго, наколькі прадбачлівымі і кемлівымі вы будзеце, залежыць папаўненне асабістага і сямейнага бюджэту альбо неапраўданыя, але вымушаныя выдаткі. Удалы абыход непрыемнасцяў у гэтай галіне дазволіць у другой палове тыдня стаць удзельнікам неафіцыйных і дабрачынных мерапрыемстваў. Дзеля вялікага поспеху вам трэба адмовіцца ад рэалізацыі амбітных намераў на працягу ўсяго тыдня.

ВАДАЛЕЙ: Першая палова тыдня можа прынесці шэраг нечаканых рашэнняў, што тычацца стылю вашай творчасці. Пастаўцеся да такога становішча рэчаў з належнай увагай і дазвольце сабе змяніць імідж. Не палохайцеся нічога, да ўсіх перашкод стаўцеся як да агароднага пудзіла і спакойна іх пераступіце. У гэты ж час вы здолееце ўдала здзейсніць падарожжа і пашырыць свой кругагляд. У другой палове тыдня высілкі пажадана скіраваць на рэалізацыю раней распрацаваных планаў і задум. Не саромцеся, калі спатрэбіцца, звярнуцца па дапамогу да ўрача.

РЫБЫ: Словы Канстанціна Кінчава: "Быць жывым — маё рамяство!" — такі ваш дэвіз на гэты тыдзень. Калі вы здолееце адмовіцца ад залішніх амбіцый, дык на пачатку тыдня простымі стануць для вас даўно наспелыя змены ў стылі ўласнай творчай рэалізацыі. Здолейце ў гэты час выказаць чуласць да нясвоечасовй і, на першы погляд, некарыснай інфармацыі. У ёй можа ўтрымлівацца як шматабяцальная ідэя, так і сігнал небяспекі, што папярэджвае пра магчымыя выхадкі нядобразычліўцаў.

**Аляксей КАРПІНСКІ,**
**рэферэнт "Акварыюніверсітэта".**

К КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
Выдаецца
з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік —
**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар —
**Людміла КРУШЫНСКАЯ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ** (першы намеснік галоўнага рэдактара), **Арсен ВАНІЦКІ**, **Андрэй ВАШКЕВІЧ** (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), **Валерый ГЕДРОЙЦ**, **Уладзімір ГЛЕП**, **Валянцін ЕЛІЗАР'ЕЎ**, **Сяргей ЗАКОННІКАЎ**, **Вольга ІПАТАВА** (рэдактар аддзела), **Ігар КЛОКАЎ** (рэдактар аддзела), **Анатоль КУДРАВЕЦ**, **Мікола КУПАВА**, **Алена ПІСЬМЯНКОВА** (рэдактар аддзела), **Міхаіл ПТАШУК**, **Алег ТРУСАЎ**, **Юрый ЦВЯТКОЎ**, **Васіль ШАРАНГОВІЧ**

Рэдакцыя:
Рэдактары аддзелаў — **Міхась БАШУРА**, **Жанна ВАСАНСКАЯ**, **Барыс КРЭПАК**
Спецкарэспандэнты: **Зміцер ВІШНЁЎ**, **Сяргей МІНСКЕВІЧ**
Загадчык аддзела фотаілюстрацый — **Генадзь ЖЫНКОЎ**
Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: (017) 276-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.
Індэкс 63875.
Агульны наклад 4091.

Падпісана ў свет 9.10.97. у 15.30.

Замова 5625

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск,
пр. Ф. Скарыны, 79.

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**